ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published by the Byelorussian American Association

P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№. 333
Год выд. XXXVI

Студзень-Сакавік
1987 г.


## АБАРОНА БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ Ў БССР

### НЕ ПРА ЎСЁ ГАВОРЫЦЦА

Тыднёвік «Літаратура і Мастацтва», орган Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі, на працягу верасьня-сьнежня сёлета даў магчымасьць пісьменьнікам і чытачом выказацца адкрыта пра стан беларускае мовы ў рэспубліцы. Спачатку газэта «ЛіМ» (19.9) выдрукавала ліст пра стан навучаньня роднае мовы настаўніка зь Віцебску Сіўка. Сіўкоў ліст пракамэнтаваў у тым-жа нумары «ЛіМу» пісьменьнік Кастусь Тарасаў. Па публікацыі гэтых двух артыкулаў, як прызналася газэта «ЛіМ», рэдакцыю газэты запаланілі лісты ад чытачоў, ад настаўнікаў, журналістаў, рабочых, студэнтаў з розных куткоў рэспублікі. На працягу ...ошніх дзесяцігодзьдзяў, бадай, ніводная праблема ня выклікала падобнай рэакцыі чытачоў.

Факты падаюцца жудасныя й абуральныя. Справа навучаньня і ўжываньня роднае мовы ў Беларусі апынулася ў жалюгодным стане. Але што далей? У спрэчках аб беларускай мове не стае аднае рэчы — няма аналізу тых прычынаў, што прывялі да крызісу, асабліва ў сыстэме адукацыі. Праўда, адзін з удзельнікаў дыскусіі, Пётра Садоўскі, дацэнт катэдры Мінскага пэдагагічнага інстытуту, выйшаў крыху за межы канстатацыі фактаў і паказаў на адну з прычынаў. Садоўскі назваў немалаважнага віноўніка крызісу нацыянальнага школьніцва ў рэспубліцы — Міністэрства асьветы БССР, у тым ліку й намесьніка міністра гэтае ўстановы Круглея. Круглей, як піша Садоўскі, у сваім ...аўленьні да беларускае мовы аглядаецца на Маскву. Але шмат хто з ўдзельнікаў дыскусіі аб стане роднае мовыківае на свайго брата, на самых сябе, бач, мы — мяшчане, мы — нігілісты, мы давялі да ўсяго, мы вінаватыя ўва ўсім.

Бясспрэчна, частка віны распаўсюджваецца і на мяшчанства, на абываталяў, на іхную абыякавасьць у дачыненьні да свае мовы. Але ці-ж толькі ў мяшчанстве прычына? А хто, трэба пытацца, вінаваты, што настаўнікаў у інстытутах ня рыхтуюць пабеларуску да выкладаньня прадметаў у беларускамоўных школах? Хіба-ж мяшчане ўстанаўляюць праграмы пэдагагічных інстытутаў, хіба-ж гэта віна мяшчанства, што ня друкуюцца падручнікі для беларускамоўных школаў? Бязмоўна, што гэта Міністэрства асьветы БССР найбольш вінаватае ў зацісканьні нацыянальнае мовы. Але трэба ісьці й далей, трэба ставіць таксама пытаньне: а хто гэта прывучыў міністра асьветы, ягонага намесьніка Круглея і да іх падобных чыноўнікаў азірацца на Маскву? Чыя тут віна, што чыноўнікі гэтыя баяцца, каб там у Маскве не паглядзелі крыва на адраджэньне беларускамоўных школаў на Беларусі?

Словам, вінаватых поўна: гэта і настаўнікі, што гавораць да дзяцей беларускамоўных школаў паруску, і бацькі, што «вызваляюць» сваіх дзетак ад лекцыяў «непатрэбнае» мовы, і тое-ж Міністэрства асьветы. Але чаму гэткае стаўленьне да свае нацыянальнае мовы? Адкуль узялася гэтая абыякавасьць, мяккацеласьсць дазваляць глуміцца над самым сабой? Нацыянальны характар? Ці што іншае? Чаму, прыкладам, у рэспубліках Прыбалтыкі родную мову выкладаюць дзецям у школах ад дзіцячага садка і ў прымусовым парадку, і нават пытаньня няма, каб нацыянальную мову рэспублікі не навучаць? Спробаў знайсьці адказ на гэтыя пытаньні ў лімаўскай дыскусіі тымчасам ня было.

Ёсьць у артыкуле Пётры Садоўскага ў газэце «ЛіМ» адзін вельмі вартасны, але недаразьвіты пасаж. Садоўскі піша, што мы ў сябе ўдома ня робім так, як гэта прадугледжваецца ленінскай нацыянальнай палітыкай. Але-ж гэта яна, гэтая нацыянальная палітыка, абярнулася была за часамі Сталіна ў палітыку русыфікацыі, суправаджаную фізычным вынішчэньнем тых, хто ёй супраціўляўся. Ці ня стаўся гэты тэрор галоўнай прычынай мяккацеласьці, боязі быць, як у 1930-х гадох, абвінавачаным у беларускім нацыяналізьме. Як напісалі ў газэту «ЛіМ» настаўнікі усіх 13 асобаў, рэспубліканскай музычна-мастацкай школы-інтэрнату імя Ахрэмчыка, «асобных настаўнікаў і вучняў, якія адважыліся ў школе гаварыць пабеларуску, на пэдсаветах абвінавачвалі ў нацыяналізьме».

Апрача гэтага, ня зьнік яшчэ на Беларусі і расейскі вялікадзяржаўніцкі шавінізм, які адчуваюць на сабе і Беларусы і прадстаўнікі іншых нацыянальных меншыняў. Адсюль найбольш можа і йдзе тая круглейская перасьцяга: «Хлопчыкі, пачакайце зь беларусізацыяй школьніцтва, бо штож падумаюць аб гэтым у Маскве».

Сёньня, дзякуючы гарбачоўскай публічнасьці, у газэце «ЛіМ» адкрыта загаварылі аб праблеме роднае мовы. Але абмяжоўвацца толькі канстатацыяй фактаў аўтары матар'ялаў, думаецца, не павінны былі-б. Побач з канстатацыяй мусіць адбывацца і працэс глыбіннага аналізу. Павінна быць усебаковая дыягностыка і ўмяшаньне хірурга. І каб павярнуць беларускую культуру ў лона нацыянальнага, патрэбнае адпаведнае заканадаўства, як пра гэта пісалі ўжо некаторыя ўдзельнікі дыскусіі. У гэткім заканадаўстве чорным па беламу мусіць быць напісана: беларуская мова — афіцыйная мова рэспублікі, інтарэсы мовы бароніць закон, і хто гэты закон парушае, у моц закону будзе й караецца.

**Алесь Васілеўскі**

## З АФГАНІСТАНУ Ў КАНАДУ

Зь пяцёх палонных савецкіх жаўнераў, якія трапілі былі ў палон да афганскіх муджагідынаў, а ў лістападзе летась прыбылі на пасяленьне ў Канаду, адзін зь іх, 25-гадовы Ігар Кавальчук, работнік з Харкаву, мае маці Украінку, а бацьку Беларуса.

## «НЕМАН» ПРА «БЕЛАРУСА»

Расейскамоўны літаратурны месячнік Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі «Неман» (тыраж: 130 тыс. экз.) зьмясьціў у сёлетнім студзенскім нумары (бб.152-164) артыкул доктара філялягічных навукаў Міхася Мушынскага пад заг. «Нацыяналістычная фальсыфікацыя і буржуазны аб'ектывізм».

Аўтар артыкулу ўзяўся выкрыць «антысавецкі характар беларускіх нацыяналістычных выданьняў», гэткіх як «Беларус» і «Беларускі Голас». Найбольш увагі Мушынскі прысьвяціў «Беларусу».

У «Беларусе», паводля Мушынскага, «няма ні паважных аглядаў беларускае савецкае літаратуры, ні аргумэнтаванае ацэнкі яе», а толькі «голая дэклярацыя, варожыя выпады супраць беларускае савецкае літаратуры і савецкага ўкладу жыцьця». І далей Мушынскі «выкрывае» тое, што пісалі ў «Беларусе» А. Загорны, А. Васілеўскі, В. Зубкоўскі. Зарэагаваў крытык і на верш Масея Сяднёва «Адведзіны» («Б-с» № 315). Верш Сяднёва прысьвечаны наведаньню ў турме Папам Янам Паўлам II-м турэцкага тэрарыста Акчы, які рабіў замах на Папу. Мушынскі асудзіў гэты верш, бо ў ім, бач, паказаны «забойца і чалавеканенавісьнік у вобразе... пакорнага ягняці». Пра замяшанасьць баўгарскае сакрэтнае службы ў замаху на жыцьцё Папы Яна Паўла II Мушынскі нічога ня кажа (а можа й ня ведае), і наагул да Мушынскага не дайшоў сэнс вершу Сяднёва — ідэя хрысьціянскага дараваньня правіны.

Шмат увагі савецкі крытык прысьвяціў таксама разгляду літаратуразнаўчых працаў брытанскага прафэсара Арнольда Макміліна. Мушынскі прызнае, што Макмілін «сярод буржуазных дасьледнікаў, якія займаюцца беларускай літаратураю, стаіць на адным з выдатных месцаў». Але ўсё-ж брытанскі славіст грэшыць, паводля Мушынскага, «буржуазным аб'ектывізмам».

Ськіраваўшы сваю дзіду на «буржуазны аб'ектывізм», савецкі крытык выхваляе сваю аб'ектыўнасьць, бо, бачыце, «мэтадалёгія савецкае літаратуразнаўцы й крытыкі стаіць на строга навуковай аснове» (б.152). Трымаючыся гэтае свае «асновы», Мушынскі пахваліў, між іншага, праф. Макміліна за тое, што той у сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры» «стрымаўся ад таго, каб уключыць у 'Гісторыю...' пісаніну, якая належыць прадстаўнікам беларускае буржуазна-нацыяналістычнае эміграцыі» (б.162).

Вось-жа Мушынскі або ня бачыў у вочы Макмілінавае кнігі або хлусіць, калі бачыў яе (і калі валодае ангельскай мовай, каб магчы пачытаць кнігу). Бо ў «Гісторыі» праф. Макміліна згадваюцца і пісьменьнікі «беларускае буржуазна-нацыяналістычнае эміграцыі». Досыць зазірнуць у паказьнік прозьвішчаў кнігі, каб пабачыць там: Вінцука Адважнага, Натальлю Арсеньневу, Рыгора Крушыну, Масея Сяднёва, Алеся Салаўя, Васіля Бірыча, Пётру Сыча, Уладзімера Глыбіннага, Юрку Віцьбіча. Піша Макмілін таксама пра Францішка Аляхновіча, Вацлава Ластоўскага, Антона Луцкевіча, Андрэя Мрыя, якіх савецкія літаратуразнаўчыя працы абыходзяць маўчаньнем. Гэтак, прыкладам, у выдадзеным у 1984 г. першым томе «Энцыклапэдыі літаратуры і мастацтва Беларусі» не знайшлося месца ані Натальлі Арсеньневай ані Францішку Аляхновічу, у другі том «ЭЛіМБ» (1985 г.) не ўвайшоў Алесь Гарун. Міхась Мушынскі, дарэчы, адзін з навуковых кансультантаў гэтага «аб'ектыўнага» выданьня.

Крытыкуючы Макмілінаву «Гісторыю беларускае літаратуры», Мушынскі зазначае: «Исследованию А. Макмилина вообще не хватает историзма» (б.164). І вось ня маючы гэтага «гістарызму», Макмілін, кажа Мушынскі, падыйшоў «з пазагістарычнымі меркамі да беларускай літаратуры пэрыяду Вялікае Айчыннае вайны, цьвердзячы, быццам яна за гэтыя гады 'дала мала каштоўнага'».

Паглядзем, што гэта — «гістарызм» для Мушынскага. А гэта, кажа «Энцыклапэдыя літаратуры і мастацтва Беларусі» (т. I, б.б.83, 84), прынцып, паводля якога «працэсы разьвіцьця аб'ектыўнай рэальнасьці трэба паказваць так, як яны праходзілі на самой справе».

Дык-жа «на самой справе» ў беларускім літаратурным працэсе былі пісьменьнікі Ф. Аляхновіч, В. Ластоўскі, быў літаратурны крытык Антон Луцкевіч, ёсьць паэтка Натальля Арсеньнева, было й ёсьць цімала іншых літаратараў, якіх сёньня савецкая цэнзура трымае ў катэгорыі г. зв., «буржуазна-нацыяналістычных пісакаў». Мушынскі-ж хваліць сёньня Макміліна за тое (прычым хлусіць!), што той прамоўчае іхныя прозьвішчы.

Дык як-жа тады быць з тым «гістарызмам», які вымагае «насьвятляць працэсы разьвіцьця аб'ектыўнай рэальнасьці так, як яны праходзілі на самой справе?»

Нічога сабе навуковец, Міхась Мушынскі!.. Нічога сабе «мэтадалёгія»!

*Арсень Загорны*

## М. КУКАБАКА Ў ВІЦЕБСКАЙ ТУРМЕ

Як падала брытанская арганізацыя, што сочыць рэлігійныя справы ў Савецкім Саюзе, Кестан Коледж, беларускі вязень сумленьня Міхал Кукабака (пра якога былі весткі, што яго, выпусьцілі на волю ў ліку 150 вязьняў) пераведзены зь Пермскага лягеру № 36 у віцебскую турму. Кукабаў цяперашні адрас гэткі:

U.S.S.R. / 210000
Vitebsk
ul. Gagarina, d. 2
uchr. Uzh / 15/IZ 2
Kukabaka M.I.

Падаем просьбу да ўсіх людзей добрае волі пасылаць Кукабаку словы падтрыманьня, бо ў яго падарванае здароўе ў выніку шматгадовага й жорсткага зьняволеньня.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# УГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

ТАРОНТА (КАНАДА)

66-я ўгодкі Слуцкага Збройнага Чыну былі адзначаныя Згуртаваньнем Беларусаў Канады 30 лістапада 1986 году. Па багаслужбе, адпраўленай у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага Архіепіскапам БАПЦ Мікалаем, адбылася ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры акадэмія. Адчыніла ўрачыстасьць др. Раіса Жук-Грышкевіч. З прывітальным словам выступіў Старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч. Даклад чытаў сп. Кастусь Акула. Успамінамі пра некаторых слуцкіх паўстанцаў падзяліўся былы Старшыня Рады БНР др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Сп. Мікола Ганько, старшыня канадзкага сэктару Рады БНР, прачытаў сымбалічны сьпіс Гэрояў Беларусі. Супольна дасьпявалі «Сьпі пад курганам гэрояў».

Старшыня Рады БНР др. Я.. Сажыч урачыста прыняў прысягу ад новага сябры Рады БНР сп. Ўладзімера Целеша.

Акадэмія закончылася беларускім нацыянальным гімнам.

ЛЁНДАН (АНГЕЛЬШЧЫНА)

Тут угодкі Слуцкага Паўстаньня былі адзначаныя 6-га сьнежня ў залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф.Скарыны. Урачыстасьць, арганізаваную лёнданскім аддзелам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, адчыніў сп. А. Зданковіч, заступнік старшыні галоўнае ўправы ЗБВБ. З рэфэратам на тэму дня выступіў сп. А. Ражанец, старшыня аддзелу ЗБВБ. Сп. Зданковіч паінфармаваў аб стараньнях арганізацыі Міжнародная Амністыя дамагчыся вызваленьня з паняволеньня ў Савецкім Саюзе беларускага іншадумца Міхала Кукабакі. Прысутным былі раздадзеныя інфармацыйныя лістоўкі з адрасам Кукабакі ды прапановаю ад Міжнар. Амністыі пасылаць Кукабаку калядныя карткі.

Пра бягучыя абавязкі, што стаяць перад беларускім грамадзтвам, гаварыў сп. Янка Міхалюк, старшыня ЗБВБ. Прамаўляў таксама сп. Ал. Лашук, сябра ГУ ЗБВБ.

Для ўдзельнікаў сьвяткаваньня быў наладжаны пачастунак.

**А.З.**

ПЭРТ (АЎСТРАЛІЯ)

Акадэмія, прысьвечаная Слуцкаму Паўстаньню, адбылася 29 лістапада ў Беларускім Народным Доме, куды зьехаліся Беларусы Пэрту й ваколіцаў. Урачыстасьць адчыніў сп. Міхась Раецкі-малодшы, старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Заходняй Аўстраліі. Былі адыграныя беларускі нацыянальны й аўстралійскі гімны. Сп. А. Мароз-старэйшы расказаў пра гэраізм случчакоў ды прачытаў прозьвішчы памерлых сяброў Беларускага Аб'еднаньня ў Зах. Аўстраліі.

Рэфэрат паангельску на тэму «Чаму мы ўшаноўваем памяць Гэрояў 27 лістапада?», прысьвечаны моладзі, прачытаў Міхась Раецкі-малодшы. Другі даклад, пабеларуску — аб прычынах вайны Беларускае Народнае Рэспублікі з Расеяй — зрабіў сакратар Беларускага Аб'еднаньня сп. Р.М. Зацікаўленьне дакладамі было вялікае.

Сьвяткаваньне закончылася агульным пачастункам, за прыгатаваньне якога належыцца падзяка сяброўкам Аб'еднаньня.

НЬЮ-БРАНСЬВІК, Н. ДЖ. (ЗША)

Сьвяткаваньне 66-х угодкаў Слуцкага Чыну, наладжанае Задзіночаньнем Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, адбылося ў суботу 29-га й нядзелю 30-га лістапада.

У суботу на беларускіх могілках у Іст-Брансьвіку пры помніку Беларускім Гэроям былі ўзьнятыя сьцягі і ўзложаны вянок, былі ўдэкараваныя беларускімі сьцяжкамі й кветкамі магілы беларускіх вайскоўцаў і грамадзка-палітычных дзеячоў.

У нядзелю 30-га ў царкве Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Гайленд-Парку пасьля сьв. Літургіі мітр. прат. а. Карп Стар адслужыў паніхіду па беларускіх жаўнерах. У часе багаслужбы вэтэраны трымалі сьцяжную варту.

Пасьля ў залі грамадзка-рэлігійнага цэнтру адбыўся ўрачысты сход. Адчыніў яго маёр С. Гутырчык, старшыня ЗБАВ. Быў прачытана прынагодны рэфэрат. З успамінамі вступілі сп.сп. А. Міцкевіч і П. Кажура.

Ствяткаваньне закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

# АЙЦЕЦ А. НАДСОН У ЗША

Вяртаючыся з Аўстраліі, а. А. Надсон, Апостальскі візытатар для Беларусаў-каталікоў, наведаў беларускія асяродкі ў ЗША.

У нядзелю 18-га студзеня а. Надсон у Галівудзе ў украінскай каталіцкай царкве адправіў пабеларуску багаслужбу для Беларусаў Лёс-Анджэлёсу. На сустрэчы з суродзічамі а. Аляксандар расказаў пра свае падарожжа ў Аўстралію й Новую Зэляндыю. У дыскусіі прысутныя выказвалі крытычныя заўвагі пра Ватыкан з пажаданьнямі, каб Апостальская сталіца больш увагі надавала патрэбам беларускіх каталікоў на Бацькаўшчыне.

У канцы студзеня — пачатку лютага а. Надсон наведаў Беларусаў Чыкага, адправіў там 1-га лютага заўпакойную багаслужбу ў беларускай каталіцкай царкве Хрыста Спаса ў першыя ўгодкі сьмерці настаяцеля гэтае царквы Біскупа Ўладзімера Тарасэвіча. З гэтае нагоды адбыўся памінальны абед. Быўшы ў Чыкага, а. Надсон наведаў Кардынала Бэрнардына ды іншых дастойнікаў Каталіцкае Царквы.

2-га лютага а. Надсон наведаў суродзічаў у Кліўленьдзе, расказаў ім пра сустрэчу Беларусаў Аўстраліі.

Закончыў а. Надсон свае падарожжа па Амэрыцы ў Нью-Ёрку, дзе 8-га лютага меў сустрэчу з беларуска-амэрыканскай моладзяй, раскаазў ім пра свае падарожжа і пра дзейнасьць Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане. 8-га лютага ў карпатарoскай царкве Сьв. Марыі а. Аляксандар адправіў багаслужбу, а пасьля ў бяседзе з суродзічамі дзяліўся сваімі ўражаньнямі з падарожжа па Аўстраліі, Новай Зэляндыі ды Амэрыцы. **А. Ш.**

# ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Праваслаўным Вернікам Беларускага Народу

ХРЫСТОС УВАСКРОС!

Дарагія й любыя Браты й Сёстры!

Сьвятыя апосталы моцна перажылі пакуты, крыжовую сьмерць і паховіны свайго любага Настаўніка Ісуса. Ім здавалася, што са сьмерцяй Ісуса Хрыста правалілася ўся іхная надзея. Але літасьцівы й шчодры Бог наш прыводзіць нас да сьветлага й радаснага дня. Бо-ж «Як мінула сыбота, золкам першага дня тыдня» (Мц. 28:1), ангел абвесьціў Марыі Магдалене й другой Марыі, якія прыйшлі наведаць магілу, дзе палажылі цела Ісусава, радасную весьць. Ангел сказаў жанчынам: «Ня бойцеся, бо я ведаю, што Ісуса ўкрыжаванага шукаеце. Яго няма тут, бо Ён уваскрос, як і сказаў. Падыйдзеце, пабачце месца, дзе Госпад ляжаў» (Мц. 28:5-6).

Па сьмерці Ісуса Ягоныя вучні-апосталы, перапалоханыя, схаваліся, як перадае паданьне, у доме Завядзея, бацькі апостала Яна Багаслова. Увечары таго-ж дня, што быў першым днём тыдня, як сьветчыць Ян Багаслоў, калі дзьверы дому, дзе зыйшліся вучні, былі замкнёны ў страху перад Гэбрэямі, прыйшоў Ісус, і стаў пасярэдзіне, і кажа ім: «Супакой вам!».

Уваскрасеньне Хрыста Спаса, дарагія мае, паказала ўсім нам, што Ягоная збаўленная ахвяра за ўсіх Адамавых нашчадкаў прынята Божым правасудзьдзем, як сьв. ап. Павал кажа: «Бо, калі будучы ворагамі, мы былі пагоджаныя з Богам сьмерцю Сына Ягонага, дык пагатове, пагадзіўшыся, уратуемся жыцьцём Ягоным» (Рым. 5:10). Уваскрослы Хрыстос Сваёй збаўленнай ахвярай, Сваім жыцьцятворчым крыжам адчыніў неба ўсім людзям, доступ «да места Бога жывога, нябёснага Ерусаліму, і да няэьлічоных ангелаў» (Гэб. 12:22).

Уваскрасеньне Хрыстовае найвялікшае хрысьціянскае сьвята, гэта ўрачыстасьць нашай веры ў Ісуса Хрыста, як адзінароднага Сына Божага, як запраўднага Бога. Хрыстовае ўваскрасеньне выявіла сілу Божую ў Госпадзе й паказала, што Ісус Хрыстос, Збаўца наш, стаўшыся падобным да чалавека, узяўшы выгляд слугі, панізіў Сябе Самога, зрабіўся паслухмяным аж да сьмерці, і то сьмерці на крыжы.

Пра агульнае ўваскрасеньне людзей выразна абвяшчае нам Сам Госпад Збаўца наш Ісус Хрыстос, калі кажа: «Запраўды, запраўды кажу вам, што настане гадзіна, дый ужо настала, калі мёртвыя пачуюць голас Сына Божага, і тыя, што пачуюць, будуць жыць. Бо настане гадзіна, калі ўсе, што ў магілах, пачуюць голас Ягоны» (Ян 5:25, 28).

У сьветлае сьвята Вялікадня, Уваскрасеньня Хрыстовага, радасна на душы ў кожнага веруючага хрысьціяніна. Нашае сэрца, наша душа адчувае ў Хрыстовым уваскрасеньні й сваё будучае ўваскрасеньне, мы бачым, што абяцаньне збаўленьня, дадзенае Богам нашым праайцом, споўнілася. Як-жа шчасьлівыя былі сьв. апосталы, як вялікая была радасьць іхная, калі ўваскрослы Госпад, зьявіўшыся перад імі, сказаў ім: «Супакой вам!». Колькі згубленых надзей уваскросла ў іхных душах!

Дагагія Браты й Сёстры, уваскрослы Хрыстос, зьявіўшыся апосталам двойчы, усяліў у іх супакой, якога яны моцна патрабавалі, калі хаваліся ад ганеньня з боку тых, што ўкрыжавалі іхнага Настаўніка. Сёньня патрабуе супакою ўсё чалавецтва. І мы моцна патрабуем супакою. Няхай-жа зацьвіце між нас любоў, няхай зьнікнуць злосьць ды сваркі аднаго з адным.

Шчыра вітаю ўсіх Вас, сьвятарства й вернікаў, верных дзяцей Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, з урачыстым і сьветлым сьвятам Уваскрасеньня Хрыстовага. Радасныя словы «ХРЫСТОС УВАСКРОС!» няхай напаўняюць вашы сэрцы.

Сардэчна абдымем адзін аднаго,бо-ж мы браты й сёстры ў Ісусе Хрысьце Госпадзе нашым. Дзеля ўваскрослага Госпада ўва ўсім выбачымся адзін перад адным. Перастанем злавацца, варагаваць ды ваяваць міжсобку. На кожнае радаснае прывітаньне «Хрыстос Уваскрос!» радасна адкажам «Запраўды Ўваскрос!». Любоў — гэта існасьць жыцьця Сьвятой Хрыстовай Царквы й жыцьця будучага веку, калі «праведнікі будуць зьзяць, як сонца, у валадарстве Айца свайго» (Мц. 13:43).

УХРЫСТОС УВАСКРОС! ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС!

Вялікдзень 1987 г.
Таронта, Канада.

**З Божае ласкі пакорны Архіепіскап МІКАЛАЙ**
**Першы Гіерарх Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**

# БЕЛАРУСЫ БЭЛЬГІІ ПРЫЗНАЮЦЬ АРХІЕПІСКАПА МІКАЛАЯ

Праваслаўныя Беларусы Бэльгіі прыслалі ў студзені сёлета Архіепіскапу Мікалаю афіцыйнцую заяву, у якой сказана, што яны прызнаюць яго як адзінага Першага Гіерарха Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

# ПАДЗЯКА

Дарагія мае Суродзічы! Шчыра дзякую Вам за дабраахвотныя ахвяры, якія былі складзеныя на пакрыцьцё мае страты, якую мне нанесьлі зладзеі. Было атрымана ахвяраў у канадзкіх далярах 2250, у амэрыканскіх — 5475 і ў аўстралійскіх далярах 915.

Усе гэтыя ахвяры, па якія мы яшчэ ня ўсьпелі зьвярнуцца, моцна рашчуліл мяне да глыбіні душы. У мяне не стае словаў, каб вказаць маё ўсхваляваньне ад Вашае дабрыні. Няхай літасьцівы Бог ахоўвае Вас усіх Сваёй апекай.

*Архіепіскап Мікалай*

# 7-АЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

Сёмая Сустрэча Беларусаў Аўстраліі, што адбылася 7-10 студзеня 1987 г. ў Мэльбурне, прайшла ўдала і, як адчувалася, ейныя ўдзельнікі-госьці ды гаспадары былі задаволеныя. Пэўна, маглі быщь і засьцярогі. Але, калі іх ня бывае?

Было на сустрэчы каля 250 асобаў, у тым ліку чатырох гасьцей з-паза Аўстраліі: Уладыка Ізяслаў [Бруцкі] з Амэрыкі, а. Архімандрыт А. Надсон з Ангельшчыны, сп. Янка Мойсік з Ватыканскага Радыё ў Рыме ды сп. Мікола Шуст з Канады, які прыбыў на Сустрэчу са сваімі мастацкімі вырабамі на выстаўку. Было шмат Беларусаў з Сыднэю, Адэляйды, сп-ства Раецкія з гор. Пэрту [Зах. Аўстралія] і сп. Парэцкі з гор. Канбэры.



*Удзельнікі канцэртнае праграмы Сустрэчы*

Сустрэча адбылася ў часе праваслаўных Калядаў, дык і настрой быў сьвяточны. Праграма Сустрэчы пачалася 7-га студзеня ў перапоўненай мясцовай царкве БАПЦ архірэйскай багаслужбай. Папаўдні таго-ж дня ў вялікай украінскай залі ў Ардзіры адбылося афіцыйнае адчыненьне, якое зрабіў сп. Аўген Груша, старшыня Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі. Прывітаўшы ўсіх, сп. Груша папрасіў Уладыку Ізяслава блаславіць Сустрэчу. Хор мастацкага гуртка «Каліна», падтрыманы прысутнымі, прапяяў гімн «Магутны Божа».

Сп. П. Гуз прачытаў атрыманыя прывітаньні: ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, падпісанае старшынём др. В.Кіпелям, ад сп. І.Касяка, старшыні Беларускага Кангрэсавага Камітэту, ад Беларускага Вызвольнага Фронту, ад сп. А.Шукелайця, старшыні Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, ад а.Бурноса, настаяцеля парафіі БАПЦ ў Адэляйдзе, і ад сп. Я.Попкі, арганізатара Беларускага Музэю ў Нямеччыне. Сп. Мікола Нікан пэрсанальна прывітаў прысутных ад імя Рады БНР.

Рэфэрат на тэму «Беларуская эміграцыя і ейная будучыня» прачытаў сп. Мікола Нікан. Дакладчык гаварыў пра жыцьцё й дзейнасьць Беларусаў у Аўстраліі, падкрэсьліў цяжкія пачаткі беларускага арганізаванага жыцьця ў Аўстраліі, расказаў пра дасягненьні суродзічаў ды заклікаў да згоднае працы, а маладых — да актыўнейшае дзейнасьці. Дакладчык зьвярнуўся з заклікам да Ўладыкі Ізяслава [Бруцкага],* каб ён прыклаў стараньні да паяднаньня ў БАПЦ ды належнага прыгатаваньня да ўрачыстага ўшанаваньня 1000-годзьдзя Хрысьціянства на Беларусі.

Па рэфэраце сп. Нікана, на просьбу дакладчыка, а. Аляксандар Надсон паінфармаваў пра дзейнасьць Беларусаў у іншых краінах, асабліва аб актыўнасьці ў Музэі і Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане ды значэньні гэтае Бібліятэкі для прагрэсу беларусаведы.

У далейшым прабегу праграмы дацэнт Сыднэйскага Ўнівэрсытэту сп. С. Каранеўскі расказаў пра захады арганізацыі Міжнародная Амністыя ў абароне беларускіх іншадумцаў, асабліва ведамага Міхала Кукабакі. Сп. Каранеўскі прасіў далучыцца да справы абароны Кукабакі, праз пасыланьне да ўрадавых колаў СССР гатовых паштовак, якія сп. Каранеўскі выдаў і раздаваў разам зь біяграфічнымі дадзенымі пра Кукабаку.

Кароткай інфармацыяй сп. Міколы Скабея аб выстаўцы беларускай кнігі ў Монашскім Унівэрсытэце афіцыйная частка Сустрэчы закончылася.

Пасьля гэтага быў пачастунак, прыгатаваны руплівымі гаспадынямі Камітэту Сустрэчы. Было весела. Гутаркам ня было канца. Дзень закончыўся кароткім канцэртам калядак у выкананьні гуртка «Каліча» з Мэльбурну.

На другі дзень сустрэчы, 8-га студзеня, перад паўднём, удзельнікі Сустрэчы наведалі выстаўку беларускай кніжкі ў Монашскім Унівэрсытэце. Выстаўку «Беларусь і яе кнігі» падрыхтаваў праф. Марван з дапамогай Беларусаў з Мэльбурну [газ. «Беларус» №№ 331 і 332].

Папаўдні ўдзельнікаў Сустрэчы парадаваў канцэрт, у якім узялі ўдзел гурток «Каліна» пад кіраўніцтвам Т. Басарыновіч (Мэльбурн), мастацкія гурткі (жаночы й мяшаны) з Адэляйды ды слаўная сям'я Андрусікаў з Адэляйды, а таксама сп. А. Груша, знаны дэкляматар з Мэльбурну.

На заканчэньне канцэрту ўсе ўдзельнікі мастацкае часткі выканалі ўлюбёную песьню аўстралійскае грамады — «Люблю наш Край».

Вёў праграму канцэрту сп. Міхась Лужынскі, кіраўнік беларускіх праграмаў этнічнага радыё ў Сыднэі.

Багатая праграма канцэрту, прыгожыя нацыянальныя касьцюмы ўдзельнікаў ды вельмі ўдалае вядзеньне праграмы далі гледачом глыбокае задаваленьне ды выклікалі зь іхнага боку гучнае брава.

Пачастунак, які адбыўся ўсьлед за канцэртам, суправаджаўся таксама сьпевамі, дэкламацыямі, жартамі, а там прыйшла й аркестра ды пачаліся танцы. Весяліліся й скакалі далёка за поўнач.

Трэйці дзень Сустрэчы, 9 студзеня, удзельнікі правялі на пікніку ў Бромбэрскім парку на прыродзе каля рэчкі. Дзень быў надзвычайны, і шмат хто добра адпачыў па ўчарашніх танцах, а некаторыя ўволю нагаварыліся ды абмеркавалі «свае» справы. Радныя БНР правялі свае нарады, а рэзалюцыйная камісія Сустрэчы падрыхтавала рэзалюцыю.

10 студзеня, у апошні дзень Сустрэчы у Беларускім Доме адбылася нарада прадстаўнікоў арганізацыяў, што ўваходзяць у склад Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі. Старшыняваў сп. М. Лужынскі, які вельмі ўдала кіраваў нарадай, а сама нарада была даволі «жвавай», адбылася даўжэйшая дыскусія над справаздачамі. Выканальнаму Камітэту Фэдэральнай Рады быў прызнаны абсалютэрыюм. За старшыню Выканальнага Камітэту быў абраны зноў сп. А. Груша, які шчыра падзякаваў усім супрацоўнікам, упаасобку сп. Міколу Скабею, за дасюлешнюю дапамогу ў працы.

Сп. Ціхан, прадстаўнік Сыднею, запрасіў усіх на наступную 8-ю Сустрэчу ў Сыднэй. Калі закончваліся нарады, Беларускі Дом пачаў запаўняцца, каб у супольным пачастунку правесьці яшчэ колькі гадзінаў разам. Зноў гучэлі песьні, а сп. А. Груша сьмяшыў гумарыстычнымі дэклямацыямі.

Пад канец сп. М. Лужынскі зачытаў праект рэзалюцыі Сустрэчы, якая была адназгодна прынятая.

Старшыня Фэдэральнае Рады сп. Груша падзякаваў удзельнікам Сустрэчы, гасьцям з-за акіяну, Камітэту Сустрэчы ды асабліва жанчынам, што дабраахвотна ўлажылі гэтульki працы, раздаў ім на знак удзячнасьці невялікія падарункі.

Сёмая Сустрэча Беларусаў Аўстраліі закончылася адсьпяваньнем беларускага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, дзейнасьць Фэдэральнае Рады Беларускіх Арганізацыяў, наладжаньне апошнім часам выстаўкі «Беларусь і ейныя кнігі», прыходы БАПЦ, Беларускія Дамы, мастацкія гурткі моладзі — усё гэта сьветчаць, што Беларусы Аўстраліі дзейнічаюць. Спадзяёмся і на далейшую плённую працу, хацедася-і адно прыцягнуць да ўдзелу больш моладзі ды мець згоду ў нашых радох. Было нам прыкра, што Ўладыка Ізяслаў, якога мы папрасілі сабрацца й пагутарыць аб балючых справах нашае Царквы, паабяцаў сустрэцца зь беларускім актывам, аднак абяцаньня свайго не датрымаў.

У часе Сустрэчы было сабрана на Фонд Беларускага Музэю й Бібліятэкі імя Францішка Скарыны ў Лёндане 813 даляраў.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ СЁМАЙ СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ У АЎСТРАЛІІ

Удзельнікі 7-ай Сустрэчы Беларусаў Аўстраліі, сабраўшыся ў Мэльбурне 7-10 студзеня 1987 году, сьцьвердзілі наступнае:

1. Нягледзячы на зьмены вонкавай палітыкі Савецкага Саюзу, у Беларусі далей праводзіцца палітыка дэнацыяналізацыі, якая асабліва адчуваецца ў выключэньні беларускай мовы з публічнага й урадавага ўжытку;
2. Савецкая ўлада дзеля дасягненьня сваіх палітычных мэтаў сьведама фальсыфікуе і абядняе беларускую культуру;
3. Гвалтуюцца элемэнтарныя правы чалавека, у выніку чаго прасьледуюцца й церпяць зьняволеньне іншадумцы (як прыклад — Міхась Кукабака) у супярэчнасьці з пастановамі Гэльсінскай Канфэрэнцыі, якую падпісаў і Савецкі Саюз, ды ў супярэчнасьці з правамі, якія гарантуюцца канстытуцыяй Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.
4. Беларусь вельмі пацярпела ў выніку Чорнобыльской катастрофы, выкліканай абыякавасьцю ўладаў да захаваньня агульна прынятых правілаў аховы жыцьця й асяродзьдзя.

У сувязі з вышэй сказаным удзельнікі Сёмай Сустрэчы, якія ўважаюць сябе за неаддзельную частку Беларускага Народу, пастанавілі:

1. Зьвярнуць увагу дзяржаваў Вольнага Сьвету на гвалтаваньне людзкіх і нацыянальных правоў у Беларусі ды прасіць іх дапамогі ў дамаганьнях, каб гэтыя правы былі аднаўленыя ды захаваныя ў будучыні;
2. Дамагацца звальненьня із зьняволеньня вязьня сумленьня Міхася Кукабакі і дазволу яму выехаць у краіну яго выбару; дамагацца свабоды для ўсіх палітычных зьняволеных у СССР.
3. Каб пазьбегнуць у будучыні катастрофы падобнай да Чарнобыльскай, дамагацца, каб савецкія ядзерныя электрастанцыі й рэактары былі даступныя для міжнароднага кантролю.

Удзельнікі Сёмай Сустрэчы хочуць таксама падкрэсьліць, што разам з усімі Беларусамі ў Вольным Сьвеце яны ставяць сабе за галоўную мэту дамагацца свабоды й незалежнасьці Беларусі.

## АБ СУСТРЭЧАХ БЫЛОЙ І НАСТУПНАЙ

Сталася амаль традыцыяй, што сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбываюцца ў Кліўленьдзе. І гэта зразумела. Такога месца, як наш «Полацак», няма ні ў адным беларускім асяродку. Праўда, ёсьць «Бэлер-Менск» ёсьць «Слуцак» але гэта — сэзонныя адпачынковыя асяродкі. Наш-жа «Полацак» — ня толькі адпачынковы асяродак, але круглагадовая калёнія. Тут грамадзкае жыцьцё не заціхае. Улетку для наведвальнікаў тут і возера, і лес, і грыбы, і пікнікі ды розныя гульні й забавы. Адведваюць «Полацак» Беларусы з цэлага сьвету. Хутка мы пабудуем на «Полацку» новую залю, а за пару год будзе свой басэйн. Усё, што рабілася і для Сустрэчы і наагул што робіцца на «Полацку», дасягаецца дзякуючы шчырай ахвярнай працы нашых кліўлендцаў, асабліва жанчын. Ведама, працай былі занятыя амаль усе нашы базаўцы і ім належыцца шчыры дзякуй. Але ад імя камітэту рыхтаваньня мінулае Сустрэчы, хочацца асобна падзякаваць паважаным спадарыням: Олі Стрэчань, Веры Каваленка, Олі Кабяка, Валі Ягаўдзік, Валі Гей-Гарох, Марусі Каваленка, Ніне Кертыш-Семянчук, Еве Яраховіч, Марыі Шавейка, Надзі Каваленка, Стэфе Гасьцеевай, Зосі Лукашэвіч, Аньне Лазар, Каці Валюкевіч, Олі Яраховіч, Зосі Касьпяровіч, Тацьцяне Кананчук, Валі Яцэвіч ды Марыі Гумен.

Наступная сустрэча, калі яна будзе адбывацца ў нас, будзе праходзіць ужо ў нашай новай залі. Дзякуем усім, хто быў у нас на сустрэчах. Прыяжджайце да нас у «Полацак» зноў на яшчэ адно спатканьне Беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

**Янка Ханенка**

# *ПЕСЬНІ СЯРГЕЯ САКАЛОВА*

У студзені сёлета на Захад трапіла касэтка з запісам неафіцыйнага канцэрту маладога беларускага барда Сяргея Сакалова. Як можна меркаваць з гутаркі на істужцы, канцэрт адбыўся летась у Беларускім Палітэхнічным Інстытуце ў Менску.

На істужцы — ня толькі песьні Сакалова (ягоныя словы й музыка: пяе ён пад гітару), але й ягоны канфэранс — тлумачэньне, што прывяло яго да жанру аўтарскае песьні ды якія матывы спрычыніліся да напісаньня таго ці іншага нумару.

Характарам свае музыкі й стылем выканьня Сакалоў нагадвае крыху расейскага барда нябожчыка Ўладзімера Высоцкага, вельмі папулярнага ў Савецкім Саюзе.

Сяргей Сакалоў у вялікай меры — аўтар гістарычнае тэмы, таксама моцны лірык. Належыць ён да групы маладых паэтаў, пра якіх пісаў у газэце "Літаратура і Мастацтва" (26.XII.86) аглядальнік "ЛіМу" Леанід Галубовіч, як пра «зусім сьвежую брую ў беларускай паэзіі».

«Зазначу, што ў адрозьненьне ад сваіх маладых папярэднікаў, — пісаў Галубовіч, — гэтая 'плынь' вызначаецца моцнай згуртаванасьцю, баявітасьцю і высокім нацыянальным гонарам. І, здаецца, выявіўся ў ёй свой лідэр — Анатоль Сыс. Праўда, гэтая 'плынь' (А. Сыс, А. Мінкін, *С. Сакалоў*, У. Сіўчыкаў, А. Аркуш, А. Глобус, а таксама А. Ламан, Л. Дранько-Майсюк, Г. Булыка, якія далучыліся да іх па блізкасьці паэтычных ідэй) яшчэ ня столькі выявіла свае таленты і творчыя здабыткі, колькі рашуча абіх заявіла... Амаль кожны з гэтых паэтаў заглыблены ў шматслойныя пласты айчыннай гісторыі».

Дарэчы, прозьвішча Анатоля Сыса, «лідэра» групы, чытачу «Беларуса» знаёмае ўжо. Гэта ён у сваім артыкуле ў газэце «Чырвоная Зьмена» згадаў Данчыка Андрусышына, як «цудоўнага» выканаўца песьні «Зорачкі» Сяргея Новіка-Пяюна (гл. «Б-с» № 332).

Выказваньне пра А. Сыса знаходзім таксама ў інтэрвію, якое даў паэт Рыгор Барадулін ў часапісе «Неман» (1987, № 2, б.160). Барадулін, гаворачы пра «цікавы пачатак» «зусім маладога ў сэньсе творчасьці» Анатоля Сыса, зазначае: «Ён разумее, што маладой паэзіі нашай яшчэ давядзецца ўрасьці ў горад, займець свайго гарадзкога чытача, беларускамоўнага, нацыянальнага».

Пра Сяргея Сакалова (пішучы ягонае прозьвішча: Сокалаў-Воюш) падала таксама газэта «Чырвоная Зьмена» (28.I.87):

«Паэт зь гітарай Сяргей Сакалоў-Воюш..аддае перавагу гістарычнай тэматыцы: ён стварыў надзвычай яскравы цыкль песень, прысьвечаны беларускім паўстанцам 1863 году, які ўвесь час дапаўняе. Дык вось цяпер Сяргей выступіў з творчай справаздачай перад беларускімі гісторыкамі ў Інстытуце гісторыі АН БССР і быў вельмі прыхільна сустрэты аўдыторыяй вучоных... Высьвятлілася, што Сокалаў-Воюш (ён зараз працуе настаўнікам у Наваполацку) прапагандуе спадчыну ня толькі песьняй: стварае пры школе этнаграфічны музэй, з гуртком школьнікаў зьбірае старажытныя словы, назвы, традыцыйную матэр'яльную культуру Полаччыны».

Ніжэй зьмяшчаем тэксты некаторых песень Сяргея Сакалова-Воюша, якімі зацікавіўся шмат хто з чытачоў «Беларуса». Зацікавіўся гэтымі песьнямі й наш пясьняр-гітарыст Данчык Андрусышын. Як даведваемся, Данчык мае намер некаторыя зь песьняў Сакалова улучыць у рэпэртуар свае новае кружэлкі, якую ён цяпер рыхтуе.

У беларускім савецкім друку вершаў С. Сакалова-Воюша нам не даводзілася бачыць.

**Рэдакцыя**

**Маналог Францішка Багушэвіча**

*«Братцы мілыя, дзеці зямлі-маткі маёй!*
*Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі,*
*пагаварыць трохі аб нашай долі-нядолі,*
*аб нашай бацькавай спрадвечнай мове,*
*каторую мы самі, дый не адны мы,*
*а ўсе людзі цёмныя мужыцкай завуць,*
*а завецца-ж яна беларускай».*

*Хай па лязу мяча наш пралягае шлях,*
*Штадня губляем мы, але й штадня знаходзім,*
*Зьмяняецца адчай адвагай у вачах,*
*І той, хто быў нямы, сягоньня сьпеў заводзіць.*

*Чыноўніцкая шаць, пляткарак грамада,*
*Бяздоньне халуёў і здраднікаў навала*
*Над намі суд вяршаць бязь сьледзтва і суда,*
*Каб нас пасьля баёў струпяніць за Уралам.*

*«Шмат было такіх народаў, што найперш*
*страцілі мову сваю, як той чалавек перад сканаьнем,*
*катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі.*
*Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай,*
*каб ня ўмёрлі!»*

*І пáдае ў нябыт пакорнасьці матыў,*
*І енкі кайданоў ля вуснаў раскаваных*
*Гучаць як вечны шчыт, як напамінак тым,*
*Хто прагне песьню зноў зацісьнуць у кайданы.*

*Грымі-ж, мая дуда, зьвіні на цэлы сьвет,*
*У кожнае жытло ідзі з гарачым словам.*
*Жыве твая хада, як бацькаў запавет,*
*Дзе вольнасьці крыло і матчыная мова.*

*«Можа з вас хто спытае: 'Дзе-ж цяпер Беларусь?'...*

**Маналог паўстанцкага каня**

*Ты сядзі упэўнена на маёй сьпіне,*
*Мы з табой ня першы раз, браце, на вайне,*
*Мы з табой ня першы раз пачынаем бой,*
*Ты сядзі упэўнена — я заўжды з табой.*

*Цок-цок, цок-цок, вершнікі на конях,*
*Цок-цок, цок-цок, ты зважай, народ!*
*Цок-цок, цок-цок, і штандар з Пагоняй,*
*Цок-цок, цок-цок, кліча у паход.*

*Недзе там на беразе брод каля ракі,*
*Там чакаюць сьвежыя царскія палкі,*
*А за імі — вольныя неба і мурог,*
*Прага неадольная новых перамог.*
*Цок-цок, цок-цок, вершнікі на конях,*
*Цок-цок, цок-цок, ты зважай, народ!*
*Цок-цок, цок-цок, і штандар з Пагоняй,*
*Цок-цок, цок-цок, кліча у паход.*

*Ты сядла не пакідай, вер, што не зманю,*
*Толькі волі болей дай мне, свайму каню,*
*Толькі болей волі дай, куля не кране,*
*Ты сядла не пакідай і ня цугляй мяне.*
*Цок-цок, цок-цок, вершнікі на конях,*
*Цок-цок, цок-цок, ты зважай, народ!*
*Цок-цок, цок-цок, і штандар з Пагоняй,*
*Цок-цок, цок-цок, кліча у паход.*

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

**Крыніцы**

*Былі крыніцы сінімі*
*І ад крыві чырвонымі,*
*А груганы над плынямі*
*Кружылі натамлёныя,*
*Маўчалі вербы ніцыя*
*І берагі вузорныя.*
*Чаму-ж цяпер, крыніцы вы,*
*Наўсьцяж такія чорныя?*
*Ці чорны дзень, ці страшны год,*
*Ці маразы ці крыгі,*
*Ці тае сьнег, ці тае лёд,*
*А ўсё няма адлігі.*
*Былі крыніцы сінімі,*
*Была вада халоднаю,*
*За інямі, за стынямі*
*Паіла нас нязгодаю.*
*Былі часіны сонныя*
*І ярыя са смагаю,*
*Была вада чырвонаю,*
*Паіла нас адвагаю.*
*Ці чорны дзень, ці страшны год,*
*Ці маразы ці крыгі,*
*Ня таяў сьнег, ня таяў лёд,*
*Але былі адлігі.*
*Чаму-ж цяпер, крыніцы вы,*
*Наўсьцяж такія чорныя?*
*Даўно паснулі рыцары,*
*Зайшлі часіны зорныя...*
*Надыйдзе раньне сьвежае*
*І новы дзень абудзіцца,*
*І зазьвініць капежамі,*
*І збудзецца, і збудзецца:*
*І ясны дзень, і зорны год*
*Са сьпёкаю і стыгаю,*
*І будзе гэты карагод*
*На ўсе часы адлігаю.*

**Аксамітны вечар**

*(Заўвага: Песьню гэтую завуць таксама «Беларусь мая».)*

*Аксамітны летні вечар ахінуў зямлю,*
*Я вазёрную сінечу вуснамі лаўлю,*
*Моўчкі слухаю у росах песьню салаўя,*
*Над маім лунае лёсам Беларусь мая.*

*А над лесам, над сусьветам выпрастаў крыло*
*Залацісты човен-ветах зорнае вясло,*
*Стан дзявочы Белай Вежы, подых ручая,*
*Я адной табе належу, Беларусь мая.*

*Там, дзе гойдае вятрыска залаты мурог,*
*Паўставалі камяніскі ля тваіх дарог,*
*Чырванее раньні золак, рэха у гаях,*
*А ў грудзях тваіх асколак, Беларусь мая.*

*Мне краёў чужых ня трэба, як ні варажы,*
*Не хачу чужога хлеба, радасьцяў чужых,*
*Бо чужына сэрца джаліць, цісьне, як зьмяя,*
*Бо гукае з дальніх даляў Беларусь мая.*

**Хвацкія малойцы**

*Хвацкія малойцы, хлопцы-касінеры,*
*Харавушны хор ды песьня на запас.*
*Секлі вам галовы за цара, за веру,*
*Толькі вашы коні ратавалі вас.*

*Толькі вашы коні ды ў душы адвага,*
*Ды агонь вачэй ды матчына сьляза.*
*І зігцела воля над ваяцкім сьцягам*
*І жыла надзея на канцы ляза.*

*І жыла надзея, і лілася песьня,*
*І гучэла рэха хлопцам у вадказ:*
*«Калі лёс загіне, справа уваскрэсьне,*
*Справа уваскрэсьне, як прысьпее час.*

## *ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

Выпадкова паў на мяне прамень жыцьцёвы зь Беларусі — магнітафонная касэтка песьняў, запісаных аматарскім спосабам, аднак выкананых велічна, з энэргіяй ды глыбокай шчырасьцю. Выканальнік Сяргей Сакалоў кажа, што родам ён з-над Начы, Прыдзьвіньня, якое ён апявае. Захоплівае Сяргей Сакалоў сваёй музыкай і вобразнасьцю паэзіі: на ўзьлеску крывічанкі, конь імкнецца ў пагоні, касінеры ідуць у бой, сіняя-сіняя крыніца чырванее, робіцца чорнаю. Песьні Сакалова моцна ўзьдзейваюць трапным ужываньнем мэтафараў, якімі сьпявак б'е, зьвініць, наводзіць, жах, бадзёрыць і ўваскрошаньня просіць.

Вершы й музыка Сяргея Сакалова — гэта новая творчая сіла, гэта — сёньняшняя Беларусь, якая Багушэвічавымі словамі кліча, дамагаецца свайго.

**Юры Каляда**

## ВЫСЫХАЮЦЬ КРЫНІЦЫ

Літаратурны крытык Анатоль Сідарэвіч ува ўсесаюзнай «Літературной газете» (4.III.87) адзначыў адну «спэцыфічна беларускую» прычыну, чаму Саюз Пісьменьнікаў Беларусі не абмалоджваецца, чаму цяпер «з 372 членаў СП БССР толькі сямём менш за трыццаць». А прычына гэта вось якая: «у рэспубліцы склалася вельмі трывожнае палажэньне з выкладаньнем роднае мовы. У выніку, па-першае — запавольніўся прыток у літаратуру новых, маладых сілаў; а па-другое — зьявілася шмат аўтараў, якія ня толькі стылем ня зігцяць, але й з граматыкай не ў ладох».

# МАСТАЧКА СТ. ТАМАРА КОЛЬБА

**(Публікацыі й дзейнасьць)**



*Ст. Тамара Кольба каля свайго абраза-трыптыху «Надзея-Любоў-Вера», створанага да 100-годзьдзя Статуі Свабоды (гл. «Беларус» № 331).*

## КНІЖКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ:

**Asian Crafts,** written and illustrated by St. Tamara Kolba. The Lion Press, Inc., 1970. Published simultaneously in Canada by George J. McLead, Ltd.

**Biography of a Polar bear,** by Barbara A. Steiner; illustrated by St. Tamara. G. P. Putnam's Sons, New York, 1972. Published simultaneously in Canada by Longmans Canada Limited, Toronto.

**Come Visit a Prairie Dog Town,** by Eugenia Allston; illustrated by St. Tamara. Harcourt Brace Jovanovich, New York and London, 1976. Also in paperback: a Let-Me-Read Book.

**Animal Games,** by Russell Freedman; illustrated by St. Tamara. Holiday House, New York, 1976.

**Save That Raccoon,** by Gloria D. Miklowitz; illustrated by St. Tamara. Harcourt Brace Jovanovich, New York and London, 1978. Also in paperback: a Let-Me-Read Book.

**Chickoree a Red Squirrel,** written and illustrated by St. Tamara. Harcourt and Brace Jovanovich, New York and London, 1980.

## ВЫСТАЎКІ Ў 1986 ГОДЗЕ:

**Audubon Society,** Anchorage, Alaska. "Chickoree" — watercolor of Red Squirrel Family.

**National Club,** CLWAC, Gramercy Park, New York City. Received Certificate of Merit Award for drowing "Taos Pueblo Revisited".

**Bergen Museum,** Paramus, N.J., Oil painting "Taos Pueblo No. 4".

Апрача заняткаў сваёй прафэсійнай працай, Ст. Тамара Кольба аддае шмат часу беларускай культурна-грамадзкай дзейнасьці. Прыкладам, 14 кастрычніка летась у Бруклдэйльскім Каледжы ў штаце Нью-Джэрзы яна ўзяла ўдзел у лекцыі пра апрацоўваньне лёну на Беларусі.

Сп-ня Галіна Русак зрабіла даклад пра апрацоўваньне лёну: ад насеньня да тканьня. Сп-ня Надзя Кудасава прала лён, а Ст. Тамара Кольба расказала пра паясы: іхнае месца ў народным жыцьці ды традыцыі, зьвязаныя з поясам, дэманстравала тканьне паясоў.

У верасьні летась на гадавым фэстывалі ў гор. Сэнды-Гук Ст. Тамара ткала паясы, а сп-ні Галіна Русак і Шульжыцкая стаялі пры сталох з экспанатамі ды інфармавалі наведвальнікаў пра Беларусь і народныя вырабы, раздавалі англамоўныя брашуркі зь інфармацыяй пра Беларусь. Усе трое былі ў народных касьцюмах. Пра Ст. Тамару й традыцыйныя беларускія паясы напісала газэта «Сандэй Рэджыстэр» (28.IX.86).

## Т.КОЛЬБА ПРА СЯБЕ Й БЕЛАРУСЬ

*Looking Back: Eleven Life Histories (Азіраючыся назад. Адзінаццаць біяграфіяў). New Jersey Ethnic Life Series. Трэнтан, Н.-Дж., 1986. 86 бб.*

На балонках 34-40 гэтага зборніка, выдадзенага ў сэрыі «Ньюджэрзійскія этнічныя біяграфіі», сп-ня Тамара Кольба расказвае пра сябе, даючы шмат інфармацыі пра Беларусь. Але найперш колькі словаў аб гісторыі кніжкі.

Гадоў пару таму Аддзел Сярэдняй Адукацыі Дэпартаманту Асьветы штату Нью-Джэрзы пастанавіў ужываць у сярэдніх школах на лекцыях мовы, гісторыяй грамадазнаўства, як дапаможнікі, інтэрвію зь імігрантамі, што жывуць у штаце. Па дапамогу штатныя ўлады зьвярнуліся да розных нацыянальных арганізацыяў, у там ліку й да Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Пра гэта падавала газэта «Беларус».

Інтэрвію зь імігрантамі запісваліся на магнітафонныя істужкі. Было запісана колькі дзесяткоў гутарак і зь Беларусамі. Матар'ялы гэтыя выявіліся добрым дапаможнікам у навучаньні. Для большага эфэкту было пастаноўлена выдаць інтэрвію ў форме сэрыі кніжак, па якіх вучань можа сачыць тэкст. Для першае кніжкі выбралі адзінаццаць інтэрвію зь імігрантамі зь Італіі, Джамэйкі, Нямеччыны, Ірляндыі, Беларусі, Японіі, Эгіпту, Румыніі, Філіпінаў, Пуэрта-Рыка ды з Амэрыканцамі афрыканскага паходжаньня.

Беларусь у кнізе прадстаўленая ведамай нашаму грамадзтву працаўніцай на нацыянальнай ніве, знанай мастачкай Тамарай Кольбай (Тамара Стагановіч).

Тамара Кольба дае шмат вестак сямейнага характару, удала ўплятаючы іх у жыцьцё сьведамае беларускае сям'і спачатку ў Польшчы, потым у Нямеччыне ды ў Злучаных Штатах Амэрыкі, расказвае пра сябе й сваё мастацтва.

**Зора Кіпель**

## «НЬЮ-ЁРК ТАЙМС» ПРА АБАРОНУ БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ

Газэта «Нью-Ёрк Таймс» за 28 сьнежня летась, пішучы пра нядаўныя канфлікты паміж Казахамі й Расейцамі ў сталіцы Казахстану гор. Алма-Аце ды паміж Якутамі й Расейцамі ў Якуціі, адзначыла таксама «атакі ў Беларускай Рэспубліцы на Міністэрства асьветы за прызнаньне першынства расейскай мове ў школах».

# ЕЎФРАСІНЬНЕЎСКІ КРЫЖ НАД БЕЛАСТОКАМ

«Гэтая пабудова ўжо цяпер стала неад'емнай часткай сучаснай архітэктуры Беластоку. Калі ехаць з боку Фастаў на Антонюк, дык ужо здалёк захапляе яна сваёй веліччу. Яшчэ ўся ў рыштаваньнях, але ўжо ўзвышаецца на 50 мэтраў ад паверхні зямлі: Антонюк Фабрычны 13 — гэта ейны дакладны адрас. Там ідзе пабудова аграмаднай Сьвятадухаўскай царквы».

Гэтак пісала беластоцкая «Ніва» (2.XI.86), падаючы пра ўрачыстасьць замацаваньня крыжа на галоўным купале царквы, што адбылася 28 верасьня сёлета. На сьвяткаваньне прыбылі праваслаўныя сьвятары з усяе Польшчы, прыехалі замежныя госьці. «Ніва» адзначыла заслугу ў пабудове сьвятыні й амэрыканскіх Беларусаў, якія дапамаглі будаўніцтва грашыма.



*Замацоўваньне крыжа на галоўным купале Сьвятадухаўскае царквы ў Беластоку.*



*Да 40 тысячаў вернікаў зьехалася ў Беласток на ўрачыстасьць замацаваньня крыжа на галоўным купале Сьвятадухаўскае царквы.*

У дзень урачыстасьці сьвятару Серафіму Жалязьняковічу, якому, паводля «Нівы», «прыналежыць пяршынство сярод будаўнікоў гэтага храму», быў наданы высокі сан протапрасьвіцера — «за вялікі пачын пры пабудове Сьвятадухаўскае царквы».

Айцец Серафім у лісьце да сп. Пётры Кажуры, які жыве ў гор. Нью-Браньсвіку, штат Нью-Джэрзы (ЗША), напісаў, што будаўнікі царквы «шмат чым забавязаныя» сваім суродзічам у Амэрыцы за сваечасовую дапамогу. «Да амаль апошняга дня, — сказна ў лісьце, — ня было пэўнасьці, што ня будуць стрыманыя работы, бо няма чым аплаціць папярэдняе фактуры. Мы напружвалі ўсе сілы, каб да гэтага не дапусьціць, але сваімі сіламі было гэта немагчыма. У такіх абставінах прыйшла Ваша помач, якая дала на нашы грошы 1.100.000 злотаў».

Паводля ліста а. Серафіма, на ўрачыстасьці замацаваньня крыжа было «тысяч 30 да 40» людзей. Да ліста былі далучаныя здымкі з урачыстасьці, якія тут зьмяшчаем.

На заканчэньне свайго ліста да сп. рых Людзей, а асабліва Суайчыньнікаў, паможа нам рэалізаваць тое, аб чым я так горача маліўся... Заўсёды зь верай глыбокай малюся за Спадарыняў і Спадароў Вашае парафіі».

У сваім лісьце а. Серафім піша таксама, што ён у «палымяным слове» на ўрачыстасьці дзякаваў усім ахвярадаўцам і ставіў за ўзор «у расьсеяньні сушчых», якія «разам са сваім прадзедаўскім дарагім Праваслаўем трымаюцца ўсяго свайго Роднага».

Да гэтага «свайго Роднага», трэба падкрэсьліць тут, належыць перш-наперш беларуская мова, якою «ў расьсеяньні сушчыя» Беларусы карыстаюцца ў сваіх сьвятынях. Трэба спадзявацца, што і ў Сьвятадухаўскай царкве ў Беластоку, пад Еўфрасіньнеўскім крыжам, знойдзецца месца беларускай мове, прынамся ў пропаведзях сьвятароў і ўладыкаў, а з часам, можа, і ў малітвах ды ў цэлай багаслужбе. Гэткую надзею маюць тыя суродзічы ў Амэрыцы, што складалі ахвяры на пабудову царквы, як пра гэта сказаў рэдакцыі «Беларуса» сп. Пётра Кажура.

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

## СПАТКАНЬНЕ НОВАГА ГОДУ

1987-ы год сустрэлі супольна ў грамадзкім цэнтры «Полацак». Заля была прыгожа ўдэкаравана, зь ялінкай. Смачна павячэралі. Танцавалі пад аркестру. У часе перапынкаў сьпявалі народныя песьні, калядкі, вечар прайшоў у вясёлым настроі.

Актыўны ўдзел у сьвяткаваньні ўзялі гэтым разам маладыя кліўлендцы, што стварыла больш зьяднаную грамаду старэйшага й малодшага пакаленьняў. Падзяка належыцца кіраўніком імпрэзы за добрае наладжаньне й жанчынам за прыгатаваньне вячэры: Эве Яраховіч, Олі Кабяка, Олі Стрэчань і Марыі Шавейка.

## ЯЛІНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У нядзелю 4 студзеня пасьля сьв. Літургіі ў царкоўнай залі адбылася ялінка для дзяцей, якую ладзіла парафіяльная рада.



*Малыя кліўдендцы ля свае ялінкі.*

Заля была запоўненая прысутнымі. Праграму адчыніў настаяцель а. Міхась Страпко. Царкоўны хор прасьпяваў трапар і тры калядкі. Дзед мароз (Юрка Сьмірноў), прывітаўшы ўсіх са сьвятам ды пагутарыўшы крыху зь дзяцьмі й прасьпяваўшы дзьве калядкі, раздаў падарункі ад парафіі, прычым абдарыў ня толькі малых, але й мужчынаў і жанчын за іхную шчырую працу пры царкве. Праграма закончылася супольным абедам, у часе якога сьпяваліся калядкі. Арганізатары папрацавалі шмат, але вынікі былі добрыя.

## СУПОЛЬНАЯ КУЦЬЦЯ

Увечары 6 студзеня 1987 г. па багаслужбе парафіяльная рада наладзіла ў царкоўнай залі супольную традыцыйную беларускую куцьцю з 12 посьнымі стравамі. Настаяцель а. М. Страпко паблагаславіў ежу, а хор з прысутнымі (больш за 60 асобаў) прасьпяваў трапар Раства Хрыстовага. У часе вячэры ўспаміналі, як адбывалася куцьця ў розных мясьцовасьцях Беларусі, прагучэлі беларускія й амэрыканскія калядкі.

## КАЛЯДНЫ ДЗЕНЬ

У сераду 7 студзеня калядная Літургія ў царкве Жыровіцкае Божае Маці была адслужаная даволі ўрачыста. Сьвятыня была запоўнена вернікамі, бо шмат хто не пайшоў на працу, а царкоўны хор быў у поўным складзе й прыгожа выконваў калядныя напевы. Айцец Міхась Страпко сказаў добрую казань, прачытаў каляднае пасланьне Першага Гіерарха БАПЦ Архіепіскапа Мікалая. У царкоўнай залі адбыўся супольны абед, у часе якога хор з прыгожаю зоркаю (якую зрабіў Анатоль Лук'янчык) прасьпяваў калядныя песьні. Вясёлы настрой трываў да вечара.

## «СТАРЫ» НОВЫ ГОД

У сераду 14 студзеня беларуская калёнія адзначыла новы год старога стылю, як гэта рабілася на Бацькаўшчыне. Прыгэтым былі ўшанаваныя жанчыны беларускае калёніі. Таму ўсе яны былі ганаровымі госьцямі, а даволі добрую вячэру з тушанага барана прыгатавалі мужчыны.

У часе вячэры старшыня аддзелу БАЗА сп. Янка Раковіч прывітаў жанчынаў, падзякаваў за ахвярную працу, прабробленую ў 1986 годзе ў беларускай калёніі ды пажадаў далейшай плённай працы. Жанчыны дзякавалі за гонар, пашану й прызнаньне ды паабяцалі працаваць у будучыні. Вялікія стараньні ў наладжаньне гэтае імпрэзы ўлажылі сп.сп. Янка Раковіч, Андрэй Стрэчань і Янка Ханенка — з добрымі вынікамі й прысутнасьцю.

**К. П.**

# НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД

*Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва былі атрыманыя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| А.Малецкая | $2000 |
| А. і Л. Бяленісы | 2000 |
| А.і І. Каха免оўскія | 1000 |
| Праз сп-тва Рамукоў ад Беларусаў г. Чыкага заміж вянка на магілу с.п. А.Вярбіцкага | 289 |
| А.Асіпчык | 280 |
| Н.Орса | 200 |
| М.Скабей | 150 |
| С.Карніловіч | 150 |
| Б.Паўкэ | 100 |
| К.Вортс | 100 |
| У.Набагез | 100 |
| Б.Даніловіч | 50 |
| Л.Трусэвіч | 50 |
| В.Стома | 25 |
| В. і Н. Касмовічы | 20 |
| А. і Л. Сільвановічы | 20 |
| Я.А. | 20 |
| Разам | $6554 |

Усім ахвярадаўцам шчырая падзяка. Управа БІНіМу спадзяецца, што беларускае грамадзтва будзе й надалей падтрымваць заплянаваную выдавецкую дзейнасьць Інстытуту ды дапаможа стварыць спэцыяльны выдавецкі фонд БІНіМу.

*Кастрычнік 1986 г.*
*Управа Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва*

# СУСТРЭЧА Ў СКАРЫНІНЦЫ

3-га студзеня сёлета ў памешканьні Беларускай Бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лёндане адбылася сустрэча з паэтам Алесем Барскім (др. Аляксандрам Баршчэўскім). Др. Баршчэўскі, загадчык Катэдры беларускай філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту і старшыня Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства (БГКТ) ў Польшчы, прыбыў у Лёндан на запросіны прафэсара Лёнданскага Ўнівэрсытэту Джэймса Дынглі ды згадзіўся на просьбу лёнданскіх Беларусаў выступіць із сваёй паэзіяй, расказаць пра жыцьцё Беларусаў у Польскай Народнай Рэспубліцы.

Сустрэчу із сп. Барскім-Баршчэўскім адкрыў сп. Янка Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, прывітаўшы дастойнага госьця. Алесь Барскі, выказваючы задаваленьне сустрэчай, зазначыў, між іншага, што ён ужо сёмы раз наведае Лёндан. Гаворачы пра дзейнасьць БГКТ, др. Баршчэўскі расказаў пра цяжкасьці ў беларускай грамадзкай працы, зьвязаныя са слабасьцю нацыянальнай сьвядомасьці Беларусаў, а таксама з тым, што зьменшваецца колькасьць Беларусаў у ўсходняй Беласточчыне: пусьцеюць шмат якія вёскі, зьмяншаецца лік беларускіх школаў дзеля нястачы дзяцей. Гэта спрычыняе паважныя перашкоды ў прыцягваньні да членства ў БГКТ ды ў пашырэньні беларускіх выданьняў. Палажэньне, праўда, ня ўсюды гэткае. Прыкладам, на Гайнаўшчыне й Бельшчыне ёсьць прыгожыя й багатыя вёскі, якія вельмі заможна жывуць, як ніколі дагэтуль. Там і грамадзкай працай цікавяцца болей і расьце зацікаўленьне да дзейнасьці Беларускага Культурнага Таварыства. Калі гадоў пяць-шэсьць таму ў Беластоку адбываліся агляды беларускіх гурткоў мастацкае самадзейнасьці, дык удзельнікаў гэтых гурткоў было часамі больш як слухачоў на канцэрце. Сёньня-ж, калі адбываецца гэткі агляд, дык у беластоцкай залі Філярмоніі, якая налічае 800 месцаў і дзе бярэцца аплата за ўступныя білеты, публікі назьбіраецца ўжо гэтулькі, што не зьмяшчаюцца ў крэслах, а стаяць пад сьценамі па тры-чатыры гадзіны да самага канца канцэрту. Гэта — зьява пацяшальная. Таксама разьвіваецца й беларуская літаратура. Беларускае Грамадзка-Культурнае Таварыства выдала больш за 20 літаратурных кніжак. Літаратурнае аб'еднаньне «Белавежа» налічае больш як 20 членаў: паэтаў, празаікаў і драматургаў, сямёх зь іх прынятыя ў Саюз Польскіх пісьменьнікаў. Др. Баршчэўскі выказаў надзею, што ў недалёкім часе ў Беластоку можна будзе стварыць аддзел СПП, які будзе складацца толькі з аўтараў, што пішуць пабеларуску.

Беларускі актыў Беласточчыны займаецца цяпер важнай справай пабудовы беларускага музэю ў Гайнаўцы. Беларускі музэй існаваў быў у Белавежы, але быў уладамі зачынены й экспанаты вывезеныя ў Цехановец. На працягу 12-х год Беларусы Беласточчыны змагаліся за тое, каб атрымаць правы на пабудову свайго этнаграфічнага музэю. Урэшце дазвол на гэта ёсьць. На перашкодзе цяпер — нястача фінансаў. Паколькі дзяржава знаходзіцца ў цяжкім эканамічным стане, фінансаваць будову музэю Беларусам давядзецца самым. Пабудова будзе каштаваць 150 мільёнаў злотаў. Др. Баршчэўскі заклікаў слухачоў даць грашовую дапамогу, зазначаючы, што Беларусы ў Польшчы сабралі ўжо каля 8-х мільёнаў злотаў: даюць ахвяры школьнікі, настаўнікі, сяляне. Дакладчык згадаў з удзячнасьцяй Беларусаў Аўстраліі, Англіі, ЗША й Канады, ад якіх дагэтуль атрымана дзьве тысячы даляраў.

Падсумоўваючы грамадзкую дзейнасьць Беларусаў у ПНР, др. Баршчэўскі выказаў сваё перакананьне, што дзякуючы культурным і сацыяльным дасягненьням у БССР і Народнай Польшчы, Беларусы маюць магчымасьць разьвіваць сваю нацыянальную культуру.

Гаворычы аб сваім паэтычным творстве, Алесь Барскі сказаў, што піша вершы ўжо на працягу 30-х год. Напісаных іх тысячы, з чаго вялікая колькасьць была публікаваная ў газэце «Ніва», зборніках «Белавежы», «Беларускіх Календарох», у зборніку «Блізкасьць далёкага» ды іншых выданьнях. Чытаныя Барскім вершы (з памяці) пакідалі па сабе моцнае ўражаньне — у вершах вычувалася радасьць, смутак, сьлёзы, адлюстроўвалася жыцьцё народу, ягоныя надзеі, мроі.

Сп. Янка Міхалюк падзякаваў др. Баршчэўскаму за прыбыцьцё ў Беларускую Бібліятэку, за цікавы інфармацыйны й літаратурны удзельнікі вечару сабралі на будову Беларускага Музэю на Беласточчыне 105 фунтаў.

Вечар закончыўся скромным пачастункам, у часе якога было відавочным, што людзі былі радыя прыймаць такога госьця.

**А. Зданковіч**

## «ВАСІЛЬКІ» Ў ПРАФЭСІЙНЫМ ЖЫЦЬЦІ

У вялікім славянскім канцэрце, што адбыўся ў Нью-Ёрку ў цэнтры Мастацтваў імя Лінкольна 31 студзеня сёлета, узяло ўдзел 18 асобаў з танцавальнага ансамблю Беларуска-Амэрыканскае Арганізацыі Моладзі «Васілёк», а таксама сьпявак-гітарыст Багдан (Данчык) Андрусышын. Усе яны гадамі ўжо выдатна рэпрэзэнтуюць на амэрыканскіх і міжнацыянальных сцэнах беларускае танцавальнае й песеннае мастацтва. Сёлета, як і папярэднімі гадамі, «Васількі» ў часе калядных сьвятаў наведалі шмат каго зь Беларусаў Нью-Ёрку, Нью-Брансьвіку, Саўт-Рывэру й ваколіцаў з калядкамі.

Лёгкасьць, зь якою «Васілёк» выконвае беларускія народныя танцы, адшліфаваная мілагучнасьць Данчыкавых песьняў, зладжаны сьпеў калядоўшчыкаў — усё гэта вынік самаахвярнае працы, якую маладыя амэрыканскія Беларусы (або, калі хочаце, беларускія Амэрыканцы) праводзяць у вольныя ад сваіх асноўных прафэсійных заняткаў гадзіны. А чым-жа гэтыя маладыя людзі займаюцца ў штадзённым жыцьці? А вось чым:

Нона Азарка — дэкаратарка інтэр'ераў, Юрка Азарка — будаўляны інжынер, Данчык Андрусышын — памочнік загадчыка аддзелу кадраў, Антон Бартуль — студэнт фармацэўтыкі, Галіна Бахар — інжынер-упакоўшчыца (парфумэрыйных тавараў), Мікалай Бахар — нядаўны выпускнік унівэрсытэту (матэматыка), Ліда Данілюк — загадчыца ў студыі гуказапісу, Вера Запруднік — кантралёр-аналітык у банку, Нэнсы Захаркевіч — студэнтка, Юрка Кіпель — лекар, спэцыялізуецца ў дзіцячых хваробах, Ала Рамана (кіраўнік ансамблю — прафэсар хэміі, Павал Рамана — студэнт, Дарота Рыжы — студэнтка, Пятрусь Рыжы — студэнт, Вітаўт Тумаш — дэнтыстычны тэхнік, Галіна Тумаш — красьлярка, Віктар Тур — кампютарны спэцыяліст, Тацьцяна Шульжыцкая — студэнтка, Урсуля Шульжыцкая — будаўляны інжынер.

*Я. З.*

## «МЫ ВАС АДВУЧЫМ АД НАЦЫЯНАЛІЗМУ!»
### Інцыдэнт у Менску

Выпадак гэты, пра які газэта «Беларус» даведалася зь верагоднае крыніцы, здарыўся 20 красавіка летась у Менску на Троіцкім пляцы ў Старым Месьце.

Двух мастакоў, Аляксей Марачкін (1940 году нараджэньня) і Мікола Купава (1946 г. нар.) абодвы члены Саюзу Мастакоў БССР, арганізавалі Сьвята Вясны.

Група моладзі зь інтэрнату музычна-мастацкага вучылішча несла зробленую з пап'е-машэ птушку — сымбаль вясны, і чучала на дзьвюх скрыжаваных палках. Ішоў дождж.

Дзень перад тым камітэт камсамолу арганізаваў групу «афганцаў» (тых, што адбылі вайсковую службу ў Афганістане), каб разагнаць «нацыяналістычную дэманстрацыю». У дзень працэсіі «афганцы» зьявіліся на плошчы, апранутыя ў чорныя святры і ў скураных рукавіцах, ды пачалі біць моладзь, прыгаворваючы: «Мы тебе дадим, что не будешь рожать до конца жизни», «Мы тебя отучим от национализма», «Мы отучим вас от празднования дня рождения Гитлера». На галаўных павязках у моладзі, паводле «афганцаў», былі фашысцкія сымбалі (свастыка).

Бацькі ўдзельнікаў Сьвята Вясны пажаліліся ў гарсавет. Але начальства заміж таго, каб знайсьці й пакараць хуліганаў, абвінаваціла арганізатараў урачыстасьці ды паясьніла, што «антиэстетическая грязная птица», якую несьлі ўдзельнікі працэсіі, была абразаю для савецкае моладзі. Апрача таго, улады цьвердзілі, што на паперы, зь якое былі зробленыя птушка і чучала, знайшліся парнаграфічныя рысункі (на самой рэчы, моладзь выкарыстала паперу з заняткаў мастацтвам у вучылішчы). Палкі-ж, на якіх несьлі чучала Зімы, каб утапіць яго ў Сьвіслачы, былі расцэненыя начальствам, як «религиозная символика».

Мастак Марачкін страціў сваё становішча ў Саюзе Мастакоў.

Сьвята Вясны было, быццам-бы, адзначае пазьней, але бяз рэклямы яго і… без нацыянальных касьцюмаў.

## АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБК

Згуртаваньньне Беларусаў Канады правядзе 9 травеня сёлета ў Тароньце свой 31-ы агульны зьезд, які адбудзецца ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры й пачнецца а 3-й гадзіне папаўдні.

# НА ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ІА**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | І. і П.Г. | ам.дал. 100 |
| 2. | К. Шэлест | 100 |
| 3. | Я. Ясьвіловіч | 50 |
| 4. | Н. Кіт | 50 |
| 5. | Я. Бандзік | 30 |
| 6. | А. Чарнэцкая | 30 |
| 7. | В. Ільчук | 30 |
| 8. | А.Я. | 30 |
| 9. | А. Кажан | 30 |
| 10. | К. Калоша | 25 |
| 11. | Л. і Л. Норык | 25 |
| 12. | С. Красоўскі | 25 |
| 13. | О. Арэхва | 25 |
| 14. | А. Кіпель | 25 |
| 15. | В. Богдан | 25 |
| 16. | В. Казлоўскі | 25 |
| 17. | Л. Дуржэнка | 25 |
| 18. | Р. Станкевіч | 20 |
| 19. | М. Шчорс | 20 |
| 20. | Н. Жызьнеўскі | 20 |
| 21. | М. Чупракоў | 20 |
| 22. | С. Кісель | 20 |
| 23. | Архм. Я. Строк | 20 |
| 24. | Б. Грабінскі | 20 |
| 25. | В. Рамук | 20 |
| 26. | С. Дудар | 20 |
| 27. | Ч. Найдзюк | 15 |
| 28. | Б. Паўк | 15 |
| 29. | Я. Крэсла | 15 |
| 30. | Т. Бэрд | 12 |
| 31. | А. Шукелойць | 10 |
| 32. | А. Яцэвіч | 10 |
| 33. | А. Андрыца | 10 |
| 34. | А. і І. Каханоўскі | 10 |
| 35. | Я. Юхнавец | 10 |
| | Разам | 937 |

*Падпіска праз сп. Б. Даніловіча:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Чатырка | 100 |
| 2. | М. Кіпель | 40 |
| 3. | М. Каранеўскі | 30 |
| 4. | С. Гутырчык | 30 |
| 5. | В. Балтрушэвіч | 25 |
| 6. | Р. Войтэнка | 25 |
| 7. | Ч. Ханяўка | 25 |
| 8. | Ю. Наумчык | 25 |
| 9. | А. Сільвановіч | 20 |
| 10. | А. Дубяга | 20 |
| 11. | М. Тулейка | 20 |
| 12. | ЗБАВ | 20 |
| 13. | А. Даніловіч | 20 |
| 14. | А. Протас | 20 |
| 15. | А. Асіповіч | 20 |
| 16. | Г. Дубяга | 20 |
| 17. | К. Міраловіч | 15 |
| 18. | В. Шульжыцкі | 15 |
| 19. | Т. Супрун | 15 |
| 20. | В. Харавец | 15 |
| 21. | І. Цупрык | 15 |
| 22. | В. Ярашэвіч | 10 |
| 23. | «Казак» (Т.А. Мядкоў) | 5 |
| | Разам | 550 |

*Падпіска праз сп. А. Стрэчаня:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Стрэчань | 50 |
| 2. | К. Калоша | 50 |
| 3. | Я. Ханенка | 20 |
| 4. | Т. Кананчук | 20 |
| 5. | М. Страпко | 20 |
| 6. | Ю. Гасьце | 20 |
| 7. | К. Каляда | 20 |
| 8. | Я. Каваленка | 20 |
| 9. | О. Яраховіч | 20 |
| 10. | Я. Раковіч | 20 |
| 11. | С.П. | 20 |
| 12. | В. Яцэвіч | 25 |
| 13. | М. Яраховіч | 18 |
| 14. | А. Сацэвіч | 20 |
| 15. | М. Галоўка | 20 |
| | Разам | 363 |

**КАНАДА**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Э. Пітушка | ам. дал. 20 |
| 2. | Ю. Рэпэцкі | 15 |
| 3. | В. Пашкевіч | 15 |
| 4. | Р. Жук-Грышкевіч | 15 |
| | Разам | 55 |

**АНГЛІЯ**

*Праз сп. М. Баяроўскага:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | У. Карніловіч | анг. ф. 10 |
| 2. | Я. Міхальчык | 10 |
| 3. | П. Мятла | 10 |
| 4. | М. Баяроўскі | 20 |
| | Разам | 50 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Падпіска і ахвяры праз сп. Г. Шайпака з Мэльбурну:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. | М. Скабей | аўст.дал. 75 |
| 2. | Г.Шайпак | 75 |
| 3. | З. Кадняк | 40 |
| 4. | Кукель | 25 |
| 5. | П. Гуз | 25 |
| 6. | Г. Лашук | 40 |
| 7. | М. Кулага | 40 |
| 8. | А. Груша | 55 |
| 9. | У. Сідлярэвіч | 35 |
| 10. | Я. Стасевіч | 25 |
| 11. | А. Грынко | 25 |
| 12. | М. Нікан | 25 |
| 13. | Валенцёнак | 25 |
| 14. | У. Яшэнка | 25 |
| 15. | М. Шэка | 25 |
| 16. | М. Швэд | 25 |
| 17. | В. Каралюк | 25 |
| 18. | М. Максімаў | 45 |
| 19. | М. Субач | 25 |
| 20. | Н. Сікорская | 25 |
| 21. | За праданыя паасобнікі «Б-са» | 16 |
| | Разам | 721 |

## БЕЛАРУСКАЯ ТЭМАТЫКА НА КАНФЭРЭНЦЫІ

18-я гадавая канфэрэнцыя Амэрыканскае Асацыяцыі Славянаведаў (ААС) адбывалася 20-23 лістапада 1986 г. ў гор. Новым Арлеане ў штаце Люізіяна. Канфэрэнцыя была вельмі люднаяя, працы яе праходзілі прыблізьма ў 250-х сэкцыях.

Беларусаведныя мамэнты закраналіся ў колькіх сэкцыях. У сэкцыі «Нацыяналізм і марксызм у савецкай гістарыяграфіі» асноўная ўвага была зьвернутая на частыя перамены інтэрпрэтацыі гістарычнага працэсу дзеля партыйных вымогаў сёньняшняга дня. Прафэсар Сымор Бэкер з Ратгэрскага Ўнівэрсытэту, прааналізаваўшы працэс утварэньня Расейскае Імпэрыі і розныя матывацыі пашырэньня яе — як прыкладам «зьбіраньне ўсіх рускіх земляў», «працягваньне рукі братняе дапамогі», «гарантыя бясьпекі й культурнага разьвіцьця народам» ды колькі іншых псэўда-прычынаў — падкрэсьліў, што савецкая ўлада згадзілася з бальшынёй гэтых «тлумачэньняў» ды паступова рэгабілітуе расейскіх гісторыкаў, якія расейскую экспаньсію апраўдвалі.

У гэтай сэкцыі выступаў таксама прафэсар Ерусалімскага Ўнівэрсытэту Міхал Агурскі, сын дасьледніка беларускага рэвалюцыйнага руху Самуіла Агурскага, які быў у 1938 годзе рэпрэсіяваны савецкай уладай.

Вельмі шмат увагі было прысьвечана Беларусі ў сэрыі дакладаў пра савецкі друк і сродкі савецкай інфармацыі ў сувязі з абвешчаным Гарбачовам прынцыпам «галоснасьці». Дасьледніца Ан Бігелоў з англамоўнага амэрыканскага часапісу «Бягучы агляд савецкага друку» падкрэсьліла, што, не зважаючы на гэтак званую «галоснасьць», друк савецкай Беларусі не падаў дакладна маштабаў Чарнобыльскае катастрофы на Беларусі. Беларускі савецкі друк вельмі скупа падаваў адно невялічкія эпізоды вынікаў гэтае катастрофы канчаючы рэпартажы, як правіла, на бадзёрай ноце.

Некалькі дакладаў на канфэрэнцыі было прысьвечана раньняму пэрыяду разьвіцьця славянскіх краёў — 10-12-му стагодзьдзям — калі, як устанавілі дасьледнікі, былі баўгарскія ўплывы на Полаччыну, Ноўгарад і Кіеў. У дакладах адзначаўся факт, што шмат вучоных манахаў з Полацку, з Турава ды з украінскіх земляў дзеілі ў Візантыі і, трэба думаць, пакінулі па сабе бесьляды ў Візантыі. Нажаль, як зазначыў прафэсар Гэнрык Бірнбаўм з Каліфарнійскага ўнівэрсытэту, гісторыкі савецкай Беларусі гэтаму пэрыяду ўдзяляюць вельмі мала ўвагі, як таксама застаецца слаба дасьледаваным яшчэ й культурнае разьвіцьцё Беларусі ў раньнім пэрыядзе Вялікага Княства Літоўскага.

Прафэсар Гэнры Купэр з Агайскага Ўнівэрсытэту прачытаў на канфэрэнцыі даклад пра значаньне й пашырэньне рукапісных экзэмпляраў Бібліі на беларускіх землях ды сказаў, што на беларускіх землях ведамыя колькі варыянтаў перакладаў Бібліі, як гэта паказваюць новыя дакумэнтальныя дадзеныя.

У колькіх дакладах, прысьвечаных узаемным культурным уплывам сярод славянскіх народаў, асабліва рэлігійным уплывам, была падкрэсьленая выключная роля Францішка Скарыны на ўсходзе Эўропы ды варожае стаўленьне Расейскае Праваслаўнае Царквы аж да 2-е паловы 19-га стагодзьдзя да славянскага друку.

Асобная група дакладаў была прысьвечаная аналізу баўгарскіх, украінскіх і беларускіх кнігазбораў у бібліятэках Паўночнай Амэрыкі. Аб беларускіх навукова-дасьледных кнігазборах у ЗША рабілі даклады сп-ня Зора Кіпель, супрацоўніца Нью-Ёркскае Публічнае Бібліятэкі, і др. Вітаўт Кіпель ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мацтацтва. Дакладчыкі аналізавалі стан беларускіх калекцыяў у блізу двух дзесяткох амэрыканскіх унівэрсытэтаў. Кажны з гэтых унівэрсытэтаў мае панад тысячу беларускіх кніжак як мінімум. Як выявілася з аб'езду бібліятэкаў Амэрыкі, шмат унівэрсытэтаў маюць кніжкі з скарынінскае пары, шмат кнігаў з нашаніўскае пары, шмат друкаў беларускай лацінкай, а некалькі ўнівэрсытэтаў маюць добрыя калекцыі з 1930-х гадоў.

У дыскусіях па беларускіх дакладах выступіла колькі амэрыканскіх і канадзкіх бібліятэкароў і дасьледнікаў, якія адназдгодна сьцьвердзілі, што найбольшая перашкода ў разбудове беларусаведных калекцыяў — гэта тое, што беларускія кнігі ня могуць паступаць у кніжна-гандлёвую сетку Амэрыкі й Канады беспасярэдня зь Менску, але толькі за пасярэдніцтвам агенцтва «Международная Книга» у Маскве. А пасярэдніцтва гэтае аніяк ня спрыяе беларускім выданьням. Некаторыя амэрыканскія дасьледнікі звярачаліся нават ў беларускае прадстаўніцтва і да гп.

Вельмі цікавы быў рэфэрат на канфэрэнцыі прафэсара Майкала Урбана з Аўбурнскага Ўнівэрсытэту ў штаце Алябама. Праф. Урбан займаецца вывучэньнем кіраўнічае эліты камуністычнае партыі Беларусі. Дасьледніка цікавяць гэткія мамэнты ў дзейнасьці КПБ: магчымасьці рабленьня кар'еры, нацыянальны склад рэспубліканскіх, абласных і раённых органаў КПБ, значаньне ў апараце кампартыі рэспублікі вялікіх індустрыяльных прадпрыемстваў ды адміністрацыйныя адносіны, прыкладам, сакратароў менскае партыйнае арганізацыі ды менскага аблвыканкому. Шмат гаварылася пра дзейнасьць і біяграфіі такіх камуністычных кіраўнікоў БССР, як Мазураў, Машэраў, Сурганаў ды Сьлюнькоў.

Вельмі шмат увагі на канфэрэнцыі амэрыканскіх славістаў было адведзена аналізу апошніх падзеяў у савецкай Беларусі ў сувязі з кампаніяй за аднаўленьне беларускае мовы ў школах рэспублікі. Прафэсар Морыс Фрыдбэрг зь Ілінойскага Ўнівэрсытэту схарэктарызаваў сёньняшні стан беларускае мовы ў БССР гэтак: прыклад БССР, сказаў праф. Фрыдбэрг, гэта найлепшы паказальнік нацыянальнае палітыкі камуністычнае партыі на шляху да зьліцьця народаў — зьліцьцё гэтае дасягаецца шляхам зьнішчэньня нацыянальнае мовы.

Сэсія канфэрэнцыі, што займалася аналізам нацыянальных дачыненьняў у Савецкім Саюзе завяршылася гэткім падсумаваньнем: савецкая ўлада, якая кіруецца камуністычнай партыяй, ніяк не разьвязала нацыянальнага пытаньня, а праводзіла й праводзіць далей тую самую што й цары палітыку русыфікацыі.

**В.З.**

### КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ Ў ЛЁНДАНЕ

Англа-Беларускае Таварыства ў сваім 21-м навучальным 1986/87 годзе праводзіць курс гэткіх лекцыяў: сп. М. Гедройць — «Крэўская вуния 1384-1386 гг. і Лятувісы» (20.X.86); праф. А. Макмілін — «Беларуская паэзія ад Скарыны да сучаснасьці» (22.I.87); праф. Дж. Дынглі — «Фармаваньне беларускай літаратурнай мовы» (26.II.87); др. Д. Сондэрс — «Н.П. Румянцаў (1754-1826) і адкрыцьцё Беларусі Расейцамі» (21.V.87); сп-чна Н. Тэйляр — «Беларускія Дзяды і 'Дзяды' Адама Міцкевіча» (18.VI.87).

## СУМНЫЯ ЎГОДКІ

25 лютага сёлета споўніліся першыя ўгодкі ад дня сьмерці Язэпа Гуткоўскага (Ізыдара Плашчынскага). Нялітасьцівая сьмерць вырвала яшчэ аднаго з сыноў Маці-Беларусі.

Прыгадваецца, якім ён быў: сумленны, з адчыненай душой, крыху бунтаўнік, ён любіў свой родны край гарачай любасьцяй. Ён неяк хвараблива ўспрыймаў усё, што датычыла да Беларусі. Перажываў за долю Бацькаўшчыны. Абураўся тым, што на грудзі Беларусі цісьне маскоўскі бот, калі ўжо ня чорны, дык чырвоны. Хварэў за чысьціню беларускае мовы. Журналіст нештадзённых здольнасьцяў, ён быў вельмі прасталінейны і часамі нецярплівы ў сваіх выказваньнях. Рэзка крытыкаваў тых, хто ня зусім правільна насьвятляў якія-небудзь падзеі, факты. Да ўсяго ставіўся крытычна. Але найбольш крытычна ён ставіўся да самога сябе. Не прызнаваў ніякіх кампрамісаў. Ён ня мог крывіць душой.

У кожнага з нас вайна, ростань з родным краем, ростань з улюбёнымі пакінулі свой сьлед. Але йшлі гады, раны зажывалі й чалавек пачынаў жыць ізноў. Ізыдарава рана ніколі не зажыла. Яна мучыла яго ўсё жыцьцё. У асабістым жыцьці ён неяк зламаўся. Як-бы падзяліўся на дзьве палавінкі. Адна жыла ў мінулым, што сталася мілым і незваротным. А з другога боку, жыцьцё рэальнае і ня зусім успрыймальнае. Гэтая ягоная раздвоенасьць, гэтыя духовыя перажываньні часамі выклікалі канфлікт. Наставаў пэрыяд упадку. Гэткі духовы стан руйнаваў ягонае здароўе. Паступова хвароба адбірала ад яго ўсё. Сэрца слабела. Сілы пакідалі, сябры аддаліліся. Адчуваў сябе адзінотна. Разумеў, што ўжо ня шмат засталося. Але ўсё-ж трымаўся. Чакаў на Вясну. (Адзіны чалавек, які да канца трымаў зь ім жывую сувязь, быў сп. Мікола Панькоў, падбадзёрваў яго то нейкай навіной, то так, гутаркай. За гэта яму сардэчная ўдзячнасьць.)

Цяжка перажыў сьмерць брата. Даўно задумаў выдаць кнігу, зборнік твораў свайго брата (Язэп Пушча). Гадамі рупліва зьбіраў патрэбны матар'ял. І здаецца давёў ужо справу да выніку. Ды не ўдалося яму скончыць гэтую працу. Сьмерць абарвала ўсё. Здаўся Ізыдарка!

У нядзелю І-га сакавіка ў Нью-Джэрзы была адслужаная паніхіда.

*Л. Д.*

## АБВІНАВАЧАНЬНЕ Ў ПЛЯГІЯТАРСТВЕ

Брытанскі часапіс «Nature» (Прырода) (карэспандэнцыя Веры Рыч) падаў у нумары за 20 лістапада летась пра абвінавачаньне двума выдатнымі членамі АН БССР амэрыканскага прафэсара ў плягіятарстве.

Др. Мікалай Барысэвіч, прэзыдэнт Беларускай Акадэміі, і др. Барыс Сьцяпанаў, тройчы лаўрэат дзяржаўных прэміяў, напісалі ў маскоўскай «Литературной газете» аб тым, што амэрыканскі прафэсар др. Голіс Б. Чэн украў для свае кнігі пра тэорыю электрамагнітных хваляў чатыры разьдзелы з кнігі беларускага вучонага др. Фёдара Фёдарава (сын беларускага пісьменьніка Янкі Маўра). Кнігі Фёдарава, зь якіх Амэрыканец, паводле крытыкаў, сьпісаў патрэбныя яму разьдзелы, выйшлі ў Менску, малымі тыражамі, у 1958 і 1976 гадох.

Азнаямленьне з кнігай праф. Чэна, піша часапіс «Прырода», не падтрымвае, як выглядае, абвінавачаньняў яго ў плягіятарстве.

## СЬВ. ПАМ. ГЕН. П.ГРЫГАРЭНКА

У Нью-Ёрку ў лютым сёлета («НЁТаймс», 23.ІІ.87) памёр, пражыўшы 79 гадоў, генэрал Пётра Грыгарэнка, ведамы праваабаронца, ахвяра брэжнеўскіх рэпрэсіяў. Ад 1977 году ген. Грыгарэнка жыў у Нью-Ёрку, куды да яго прыехала пасьля й жонка.

У гісторыі беларускага іншадумства сям'я Грыгарэнкаў заслужаная найбольш тым, што яна заапякавалася Міхасём Кукабакам, калі Кукабака, ня маючы ніякіх сваякоў, трапіў пад перасьлед з боку савецкіх уладаў.

Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне й газэта «Беларус» выказалі спачуваньне ўдаве Нябожчыка сп-ні Зінаідзе Грыгарэнка з прычыны сьмерці мужа.

## У ВЭТЭРАНАЎ НЬЮ-БРАНСЬВІКУ

Сп. Пётра Кажура, сябра Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў (ЗБАВ), быў абраны паўторна на год часу ў склад кіраўніцтва амэрыканскае вэтэранскае арганізацыі — Вэтэранская Згуртаваньня Рарытанскае Даліны. На працягу гадоў ужо ЗБАВ цесна супрацоўнічае з амэрыканскімі вэтэранамі, адны ў адных бываюць на сьвяткаваньнях, беларускія вэтэраны карыстаюцца пашанай у сваіх амэрыканскіх сяброў.

## ПРА ШМАТЭТНІЧНАСЬЦЬ ПАРАФІІ

У амэрыканскай газэце «Гоўм Ньюз», што выходзіць у гор. Нью-Брансьвіку, штат Нью-Джэрзы, зьмешчаны ліст у рэдакцыю Юр'я Сакавіка. Аўтар допісу зарэагаваў на артыкул, зьмешчаны ў тэй-жа газэце раней, пра сьвяткаваньне праваслаўнага Вадохрыша, вытлумачыўшы, што стараславянская мова — ніякі не дыялект расейскае ды што прыхаджане царквы Сьвятых Пятра й Паўла ў гор. Маніла — у бальшыні Беларусы і Украінцы, а не Расейцы. Ю. Сакавік заклікаў настаяцеля Пятра-Паўлаўскае парафіі а. Джэймса Парсэлса прызнаць гэты факт ды падтрымваць іншыя этнічныя культуры, а не заціраць іх.

## КНІГАВЫДАВЕЦТВА Й КНІГАВЕДА Ў БССР

У кнізе Proceedings of the Second International Conference of Slavic Librarians and Information Specialists, Washington, D.C., 1985, якая выйшла ў выдавецтве «Русіка» ў Нью-Ёрку ў 1986 г., зьмешчаны артыкул сп-ні Зоры Кіпель аб стане кнігаведы ў БССР у пэрыядзе 1917-1935 гадоў. У артыкуле ёсьць цікавае статыстычнае супастаўленьне, якое паказвае на паступ русыфікацыі. Гэтак, калі ў 1924 г. ў БССР друкавалася 70% кніжак пабеларуску, 15% ў мове ідыш, 8% парасейску, 5% папольску й 2% палітоўску й палатаўску, дык цяпер у БССР панад 70% кніжак выдаецца ў мове расейскай.

У артыкуле сказана, што кнігаведныя дасьледаваньні ў БССР былі амаль спыненыя ў 1930-х гадох і нясьмела адноўленыя толькі праз сорак гадоў.

## «АБ БАГОХ КРЫВІЦКІХ СКАЗЫ»

Выдавецтва «Баявая Ўскалось» у Таронце (Канада) выдала летась кніжыцу Ç. Хмары «Аб багох крывіцкіх сказы» (Беларуская міталёгія). Выд. 2-е. У кніжыцы (31 старонка друку) 17 легендаў-мініятурак і «Слоўнічак міталёгіі крывіцкіх багоў».

## НЯПЭЎНАЯ БУДУЧЫНЯ РАДЫЯПРАГРАМЫ

У гор. Пэрце (Зах. Аўстралія) 29 лістапада летась, па сьвяткаваньні ўгодкаў Слуцкага Паўстаньня, адбыўся сход, на якім разглядалася справа будучыні беларускіх радыяперадачаў у Зах Аўстраліі. Пра палажэньне Этнічнага Радыё ў Зах. Аўстраліі паінфармаваў паангельску прадстаўнік ад Беларускага Аб'еднаньня ў Этнічным Радыёвым Камітэце сп. Сяргей Дамброўскі, а пабеларуску — сп. Міхась Раецкі-старэйшы.

Як выявілася, радыястанцыя, зь якое ідуць у эфір усе этнічныя радыяпраграмы, мае фінансавыя цяжкасьці. Каб выйсці зь іх, адміністрацыя падвысіла цану за радыячас. Дзеля гэтага будучыня беларускіх радыяпраграмаў у Зах. Аўстраліі была пастаўленая на сходзе на галасаваньне: працягваць іх, ці не. За тое, каб праграмы весьці далей, галасавалі ўсе за выняткам аднаго, які стрымаўся ад галасаваньня.

Паколькі радыястанцыя падвысіла кошт беларускай штотыднёвай паўгадзіннай перадачы на трынаццаць з паламінаю даляраў, паўстае пытаньне, адкуль узяць дадатковыя грошы. Захады дастаць дапамогу ад ураду вынікаў не далі. З усіх іншых магчымасьцяў, якія разглядаліся на сходзе, найбольш рэальная, хоць і ня вельмі прыемная, гэта — прасіць ад суродзічаў грашовых ахвяраў, ад якіх і будзе залежаць далейшае існаваньне беларускіх радыяперадачаў у Заходняй Аўстраліі. *Р.*

*Ад рэдакцыі «Беларуса»:* Хочацца спадзявацца, што справа гэтая знойдзе прыхільны водгук ня толькі сярод Беларусаў Аўстраліі, але срод суродзічаў у ЗША, Канадзе, Зах.Нямеччыне, Бэльгіі, Ангельшчыне ды іншых краёх. На ўсялякі выпадак падаём адрас, на які, калі-б хто захацеў, можна слаць грашовую ахвяру:

Mr. M. Rajecki,
37 Doust St.,
Cannington 6107,
W. AUSTRALIA.

## БЕЛАРУСІКА Ў ДРУКУ

***«Салідная фаховая працай»*** назвала рэцэнзэнтка кнігу Вітаўта й Зоры Кіпеляў «Янка Купала й Якуб Колас на Захадзе. Бібліяграфія». Марта Тарнаўская ў украінскім часапісе «Сучасність» (Нью-Ёрк, чэрвень 1986, б. 119) кажа, што праца Кіпеляў — «каштоўны ўклад у беларускую літаратураведную бібліяграфію і, запраўды, прыгожае адзначэньне стагадовага юбілею абодвых паэтаў. Гэта жывы помнік, што значыць больш, як помнік у бронзе, бо ён ёсьць і будзе ключом і стымулам да новых арыгінальных досьледаў».

***«Бібліяграфія Кіпеляў добра задуманая й ня горш выкананая»*** — гэткую ацэну даў кнізе брытанскі спэцыяліст беларускае літаратуры праф. Арнольд Макмілін у навуковым квартальніку Canadian Slavonic Papers (v.XXVIII, No. 2, June 1986).

У сваёй рэцэнзіі праф. Макмілін кажа, што шмат якія выказваньні літаратурных крытыкаў 1930-х гадоў пра Купалу й Коласа сёньня прамоўчваюцца савецкімі бібліёграфамі і што прабел гэты цудоўна запаўняе праца Кіпеляў. Апрача гэтага, зазначае рэцэнзэнт, кніга зварачае ўвагу на некаторыя часамі вельмі важныя арыгінальныя тэксты, пакінутыя паза полем дасьледаваньня іх дзеля прычынаў, ня зьвязаных зь літаратурай. На думку праф. Макміліна, кніга будзе спрыяць далейшаму дасьледаваньню творчасьці Купалы й Коласа.

## АПАВЕШЧАНЬНЕ

Беларуская Рэдакцыя Радыё «Свабода» шукае рэдактара на працу ў Мюнхэне. Вымагаецца выдатнае веданьне беларускае і ангельскае моваў і гэткія-ж рэдактарскія кваліфікацыі. Добрая аплата, выгадныя ўмовы працы. Кошты пераезду і кватэра ў Мюнхэне аплачваюцца працадаўцам. Кандытатаў, з далучэньнем кароткага жыцьцяпісу, просім зьвятартацца на адрас:

Personnel Department
Radio Free Europe/Radio Liberty
Oettingenstr. 67
*8000 Munich 22*
West Germany

## ПРА «НАШУ НІВУ» Ў ВАРШАВЕ

З нагоды 30-годзьдзя Катэдры Беларускае Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту пры ўнівэрсытэце адбыўся 12-13 сьнежня летась сымпозіюм. Удзел у сымпозіюме ўзялі выкладчыкі Варшаўскага і Ўрацлаўскага ўнівэрсытэтаў, трох прафэсароў зь Менску (Аркадзь Жураўлёў, Мікола Назарук і Мікола Бірыла), а таксама славіст зь Нью-Ёрку, прафэсар Нью-Ёрскага Гарадзкога Ўнівэрсытэту Томас Бэрд.

Прачытаныя на сымпозіюме даклады маюць увайсьці ў зборнік у сэрыі "Studium filologii rosyjskiej i słowiańskiej" Сэрыя выдаецца Варшаўскім У-там.

Праф. Бэрд, які працуе над доктарскай дысэртацыяй пра ролю "Нашае Нівы" ў станаўленьні беларускае нацыянальнае сьведамасьці й вызвольнага руху, частку свайго дакладу на сымпозіюме прачытаў пабеларуску. Сп. Бэрд наведаў таксама Беласточчыну, абзнаёміўся там із станам беларускае культуры й грамадзкага жыцьця, выступаў перад вучнямі беларускага ліцэю ў Гайнаўцы, даў інтэрвію газэце «Ніва».

## УДЗЕЛ У ВЫСТАЎЦЫ

Сп. Мікола Латушкін зарэагаваў на допіс «З жыцьця ў Чыкага» («Б-с № 332) нараканьнем, што ў карэспандэнцыі нічога ня было сказана пра ўдзел у міжнароднай выстаўцы Беларускае Нацыянальнае Рады — «сама. старэйшай беларускай арганізацыі на амэрыканскім кантынэньце». Сп. Латушкін паведамляе нам, што на выстаўцы быў таксама «стэнд футаў на сто з рознымі беларускімі стравамі, дзе бесьперабойна два дні завіваліся пазьменна 19 жанчын і паўтузіна падросткаў, прапануючы публіцы розныя стравы».

Да свайго ліста сп. Латушкін далучыў гадавую справаздачу з «Будаўнічага фонду», у якой пад датамі 21 і 28 кастрычніка 1986 г., як прыбытак з выстаўкі, упісаныя 1518 даляраў.

Рэдакцыя «Беларуса» ўздзячная сп. Латушкіну, што ён паінфармаваў нас пра ўдзел у выстаўцы Беларускае Нацыянальнае Рады. Калі-б ён гэта зрабіў у тым самым часе, што й др. Вітаўт Рамук (аўтар вышэй згаданага допісу ў 332-м нумары «Беларуса»), дык газэта «Беларус» пра гэта падала-б своечасова.

## «НЬЮЗЎІК ПРА ВЫНІКІ «ГАЛОСНАСЬЦІ» Ў БССР

Амэрыканскі тыднёвік «Ньюзўік» за 5 студзеня сёлета адзначыў, што ў выніку прынцыпу «галоснасьці», які ўкараняецца новым савецкім лідэрам Гарбачовам, у Беларускай ССР былі зьнятыя з пасадаў міністар юстыцыі й галоўны пракурор рэспублікі.